

Танцы на Двары Валілы → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Людзі з-над Бобры → 12


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 27 (3138) Год LXI | Беласток, 3 ліпеня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Вялікі і малы юбілеі



# АРЭШКАЎСКАЙ ШКОЛЫ

■ На сцэну былі запрошаны настаўнікі, якія ў Пачатковай школе ў Арэшкаве працавалі найдаўней: сужонства Пётр і Марыя Бура, Люба Гурын, Марыя Харкевіч, Вера Маліш і Ян Сычэўскі (злева дырэктар Тамара Крайнік)

**Непублічная пачатковая школа ў Арэшкаве, якая паўстала пасля закрыцця публічнай школы дзейнічае 5 гадоў, 19 чэрвеня адзначыла 50-годдзе існавання падставовай школы ў мураваным будынку, збудаваным з нагоды тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. Гэта былі вялікі і малы юбілеі, на які, побач цяперашніх вучняў, іх бацькоў і настаўнікаў, прыбылі ў арэшкаўскую школу былыя настаўнікі, яе выпускнікі і мясцовыя жыхары. Не было б гэтай сустрэчы вялікай школьнай сям'і, калі б Пачатковая школа ў Арэшкаве не прадоўжыла сваёй дзейнасці. Былая і цяперашняя дырэктар Тамара Крайнік, з дапамогай настаўнікаў і бацькоў, выканала вялікую працу, каб зладзіць вялікае школьнае мерапрыемства.**

Мерапрыемства «Спатканне пасля гадоў. Арэшкава, чэрвень 2016» адкрыла і вяла дырэктар Тамара Крайнік, якая спачатку працавала настаўнікам у арэшкаўскай школе, а ад 1991 года была яе дырэктарам. З часу стварэння ў Польшчы гімназій працавала дырэктарам Гімназіі ў Дубінах ажно да выхаду на пенсію. Некалькі гадоў таму на просьбу бацькоў спадарыня Тамара вярнулася ў Арэшкава працаваць дырэктарам цяпер ужо Непублічнай пачатковай школы. Яе прывязанасць да арэшкаўскай школы было відаць падчас афіцыйных выступленняў і размоў з былымі вучнямі і настаўнікамі.

— Гісторыя Арэшкава звязана з Белавежскай пушчай. Школы-тысячагодкі пачалі будаваць у пяцідзясятыя гады, каб здаць іх у карыстанне да 1966 года, да святкавання тысячагоддзя ад прыняцця нашай краінай хрысціянства. У новым прыгожым мураваным будынкау ў Арэшкаве вучні пачалі вучыцца ўжо ў 1963 годзе. Тады быў гэта вельмі шыкарны будынак, якога не было ў бліжэйшым наваколлі. Мы цешымся, што пасля закрыцця публічнай школы мясцовым бацькам удалося адрадзіць навучанне ў якасці непублічнай школы. Сёння нам важна, што змаглі спаткацца тут былыя настаўнікі і вучні нашай школы. Будуць яны размаўляць, дзяліцца ўспамінамі і рабіць супольныя фатаграфіі, — гаварыла дырэктар школы Тамара Крайнік.

— Я ўдзячны маім настаўнікам з падставовай школы і спадарыням, якія падчас холаду даглядалі за печкамі і дбалі, каб у школе было цёпла, а гэта была цяжкая праца. Настаўнікі дбалі, каб у школе быў высокі ўзровень навучання, а мая настаўніца беларускай мовы Валянціна Дзмітрук так навучыла мяне граматыцы, што я, будучы вучнем Гайнаўскага белліцэя, не мусіў ёй вучыцца другі раз. Дырэктар Тамара Крайнік не толькі была маім класным выхавацелем, але мы з Тамарай таксама выводзімся з адной вёскі, — сказаў старшыня Беларускага саюза ў РП, галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва» Яўген Вапа, які з Доўгага Броду (мясцовыя называюць вёску Мацкевічы), штодзень даязджаў у школу ў Арэшкава.

Юбілейнае мерапрыемства памагалі весці старшыня бацькоўскага камітэта Анна Вілюк, старшыня вучнёўскага самаўрада Наталля Ніканюк і Малгажата Галёнка, якая выступіла на сцэне са сваімі сябрамі.



Дырэктар Тамара Крайнік распавяла пра гісторыю школы і заахвочвала паглядзець здымкі і прачытаць інфармацыю з міні-альбома «Арэшкава і наваколле даўней і сёння», якога аўтарам з'яўляецца Ала Грыц, цяперашняя дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы. Ала Грыц падзякавала арэшкаўскай школе за супрацоўніцтва, а настаўніцам Анеце Аляксяюк і Камілі Плеве — за індывідуальнае супрацоўніцтва з гайнаўскай бібліятэкай, дзе, між іншым, вялі яны заняткі. Была падрыхтавана таксама мультымедыйная прэзентацыя аб школе. Настаўніца Ева Герасімюк сказала, што збірала весткі аб гісторыі арэшкаўскай школы, якія запісаны ў электроннай версіі. Сабраных павіншавала Галіна Пустэльнік, дырэктар Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, у якой вучылася частка жыхароў Арэшкава, якія жывуць на хутары Парыева. Войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч прыехала з падарункам для вучняў, прывітала выпускнікоў і былых настаўнікаў ды падзякавала дырэктар і настаўнікам за навучанне дзетак.

— Наша гмінная ўправа супрацоўнічае з арэшкаўскай школай. Арганізавалі мы тут у супрацоўніцтве са школай і страхавачнай кампаніяй ПЗУ фэст пажарнікаў і ладзілі сустрэчы ў рамках праекта «Здаровае харчаванне». Я пад уражаннем бацькоў вучняў гэтай школы, якія так многа ўклалі працы, каб адкрыць непублічную школу, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

Дырэктар Тамара Крайнік таксама адзначыла вялікую ангажаванасць бацькоў, якія моцна намагаліся захаваць школу ў Арэшкаве. Бацькі ездзілі на сесіі Рады Гайнаўскай гміны і намагаліся адкрыць непублічную школу ў Арэшкаве, што ім удалося. Арэшкаўскую школу спачатку стаў весці Фонд «Кая» з Гайнаўкі. Старшыня фонду Люцына Ваўрашук не змагла прыехаць і ўдзельнікам юбілейнага спаткання даслала віншаванні. Пасля вядучым органам школы ў Арэшкаве стала Аб'яднанне «Адукатар» з Ломжы, якое вядзе многа

працяг ☞ 4





# Канец вялікаму братанню

Рэферэндум у Вялікабрытаніі па пытанні выхаду гэтай дзяржавы з Еўрасаюза ўскалыхнуў амаль увесь кантынент разам з астравамі, не пакінуў абыякавымі бальшыню грамадзян еўрапейскай прасторы. Дыяпазон ацэнак яго вынікаў надзвычай шырокі — адны лічаць, што гэта сапраўдная геапалітычная катастрофа нашага часу, іншыя — што пазітыўны працэс вяртання да нармальнай палітыкі. Адны прагназуюць хуткі распад Вялікабрытаніі, іншыя — імклівае адраджэнне яе былой велічы. Адны лічаць, што з такога галасавання вельмі цешыцца пуцінская Расея, якая і надалей будзе паспяхова ўбіваць клін паміж еўрапейскімі народамі і беспакарана ажыццяўляць сваю агрэсію ў дачыненні да суседзяў. Іншыя — што нарэшце ў Еўропе з'явіцца асобны моцны самастойны палітычны суб'ект, які будзе трымаць цвёрдую і прынцыповую пазіцыю ў дачыненні да агрэсара.

Пакуль зразумела толькі адно — карта Еўропы напэўна будзе мяняцца на нашых вачах. Шатландыя хутчэй усяго выйдзе з Вялікабрытаніі, магчыма за ёй пацягнецца і Паўночная Ірландыя. На тэрыторыі сённяшняй Іспаніі напэўна з'явяцца суверэнныя Каталонія і Басконія, якія хоць і розным шляхам, але паслядоўна ідуць да гэтага. Расея як імперыя будзе развальвацца з трэскам і яе шлях найбольш непрадказальны. Але так у гісторыі было заўсёды, адны імперыі развальваліся, іншыя ствараліся. Адны дзяржавы знікалі бясследна і назаўсёды, іншыя адраджаліся, узнікалі новыя краіны.

Што датычыць Еўрасаюза, то крызіс гэтай геапалітычнай структуры відавочны. Што і паказала галасаванне ў Вялікабрытаніі, што і дэманструе рост еўраскептыкаў у краінах Усходняй Еўропы — Польшчы, Венгрыі, Румыніі... Светлая ідэя аб'яднаных еўрапейскіх народаў апынулася падмененай аб'яднаннем палітычных элітаў, магутных эканамічных карпарацый, якіх цікавіць па вялікім рахунку толькі прыбытак і якім пляваць на інтарэсы звычайных людзей. Ідэя адкрытых межаў для ўсіх еўрапейскіх народаў насамрэч пераўтварылася ў квазірашэнні, набыла нейкую перакручанасць. З аднаго боку — амаль поўная адкрытасць для нелегалаў з іншых кантынентаў, з іншага — амаль жалезная заслона для тых еўрапейскіх народаў, якія апынуліся адрэзанымі ў сваёй бядзе. Зрабіць бязвізавы рэжым для Украіны можна за тыдзень, еўрапейская ж бюракратыя расцягвае яго на гады. А чаму не зрабіць бязвізавы рэжым для беларускіх грамадзян у аднабаковым парадку?! Зразумела, што з захаваннем пашпартнага кантролю. Чым бы гэта пагражала Еўрасаюзу? — Абсалютна нічым. Злачынцы і так ужо пранiклі ў Еўропу, набылі там процьму маёмасці і не збіраюцца лічыцца з карэннымі жыхарамі. А вось сумленным і законапаслухмяным людзям усюды бар'еры, усюды бюракратычныя перашкоды. Зрабіце бязвізавы ўезд для беларусаў і украінцаў і еўрапейскія краіны атрымаюць дадатковы прыток працоўных рук і людзей, якія арганічна інтэгруюцца ў супольнасць падобных сабе ментальна і духоўна. Але ж не — замест будавання еўрапейскай супольнасці як супольнасці народаў з адным кодам каштоўнасцей і вартасцей, дэклараваная і ўкараняецца фальшывая ідэя мультыкультурнасці. Прычым што гэта такое — ніхто выразна растлумачыць не можа. А паралельна адмова ад усіх нацыянальных, усіх хрысціянскіх каштоўнасцей, а значыць ад падмуркаў тоеснасці.

Людзі, звычайныя выбарцы, таксама выразна бачаць, што брусельскае кіраўніцтва не можа даць рады аніводнаму сур'ёзнаму выкліку — ні праблеме нашэсця нелегальных мігрантаў, ні пагрозе ісламскага тэрарызму, ні згубных наступстваў маскоўскай агрэсіі ў розных кірунках. Таму і надыходзіць час адпаведнай рэакцыі.

Рэферэндум у Вялікабрытаніі яшчэ раз паказаў і недасканаласць дэмакратычнай сістэмы, калі ўсё вырашае большасць. А што будзе з галасамі 48% брытанцаў, якія прагаласавалі за тое, каб застацца ў Еўрасаюзе? Фактычна іх меркаванне будзе ігнараванае.

Асабіста я не перажываю за вынікі брытанскага рэферэндуму, як і не радуюся зыходу плебісцыту. А што ён прынясе ў выніку — пабачым.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Вырашае большасць

Дэмакратыя выцякае з Еўропы, як альпійскія ледавікі — неяк так спадсподу і амаль незаўважнымі раўчукамі. Лядовыя языкі вядома чаму расплываюцца — з-за глабальнага пацяплення. Пад яго ўплывам курчацца, плавяцца, абкрышваюцца, застаюцца адно ў высокіх горах. Але чаму ДЭМАКРАТЫЯ? Яна ўжо адвярнулася з Турцыі і Венгрыі. Абкрышылася ў Чэхіі і Славакіі. Нашмат раней растала ў Расіі і Беларусі. Цяпер выплывае з Польшчы. Параўнанне з году ў год паказвае, што хуткасць яе дэградацыі відавочна паскараецца. Усё ж некалькі месяцаў таму мы жылі ў шчасным перакананні, што канстытуцыйная імунная сістэма ў Польшчы можа лёгка справіцца з вірусам аўтарытарызму нястрымным на працягу некаторага часу ў свеце. І, пэўна, дала б сабе рады так ці інакш. На жаль, мы не прадбачылі, што яе свойская, таксічная, але не празмерна шкодная мутацыя так хутка трансфармуецца ў выгляд цяперашняй улады. Несумненна, улады забяспечаныя у атрыбут аўтакратызму. Ну, што ж, гэта здарылася. Давайце не будзем забываць і пра тое, што дэмакратыя, будучая волевыяўленнем большасці, была для яе спрыяльным асяроддзем. Інакш кажучы, без дэмакратыі большасці не было б аўтакратызму меншасці. Асмелюся нават выказаць тэзіс, што сённяшні аўтарытарызм у Расіі, Беларусі, Венгрыі і ў Польшчы быў пабудаваны на падмурку дэмакратыі. Таму праўда, што мы цяпер маем такую ўладу, якую маем. Аб гэтым вырашыла большасць. Але большасць неабавязкова заўсёды мае рацыю. Тым не менш, яна рашае аб якасці дэмакратыі. У такім выпадку давайце казаць не аб дэмакратыі, але аб большасці, якая аб ёй вырашае. Якая яна ёсць? Аб гэтым, аднак, потым.

Цяпер варта адзначаць, што выпадак Польшчы, дзе па волі большасці дэмакратыя стала з ног на галаву, не з'яўляецца чымсьці ўнікальным. Да падобных кульбітаў рыхтуецца ўсё больш і больш французаў і іспанцаў. Калі іх лік складзецца ў масавую большасць, аўтарытарызм у гэтых краінах раскрые сваю жорсткую зяпу. Амаль так адбылося ў Аўстрыі. У скандынаўскіх краінах яна бачыцца ўсё больш і больш выразна на тварах штораз больш папулярных палітыкаў. „Брэксіт”, або выхад Вялікабрытаніі з Еўрапейскага Саюза, пацверджаны вынікам усенароднага рэферэндуму, толькі пацвярджае тэзіс пра тое, што вядомая нам формула дэмакратыі павольна сыходзіць. Іншымі словамі, яна перастае функцыянаваць належным чынам, калі ўзровень складанасці падзей перавышае нейкі крытычны ўзровень. Гэтак адбылося ў апошнія гады. Рост напружанасці ў адносінах паміж Расіяй і НАТА з-за вайны ва Украіне, запаволенасць кітайскай эканомікі, сусветны эканамічны крызіс, які бесперапынна цягнецца з 2008 года і пастаянныя хваляванні на Блізкім Усходзе і ў некаторых частках Афрыкі прама ці ўскосна абумоўлены адраджэннем ісламскага фундаменталізму, што ў выніку прынесла войны і масавыя пабоішчы, голад і, такім чынам, бежанскую міграцыю мільёнаў людзей — усё гэта аслабляе асновы дэмакратыі. Не таму, аднак, што канстытуцыйныя механізмы самаабароны не ўстане вырашыць выклікі, пастаўленыя перад ёю сучасным светам. Тэрарызм, вартая помсты неба неадпаведнасць паміж багаццем Поўначы і беднасцю Поўдня, войны, якія ў выніку даюць інтэнсіфікацыю людской міграцыі, узмацняюць расісцкія і нацыяналістычныя погляды, гэта не тыя праблемы, з якімі дэмакратыя не магла б справіцца. На жаль, не дае рады справіцца. І не справіцца таму, што сутнасцю яе слабасці з'яўляецца... большасць. Тая змаргіналізаваная палітычнымі мейнстрымамі і мадэрнымі тэхналогіямі, з аднаго боку старэючая, таму няўстойлівая да рэзкіх якасных змен, з другога боку замаладая, каб не спакусіцца папулізмам — у агульнай складанасці большасць выбаршчыкаў. Менавіта ад гэтай большасці залежаць будучыня Еўропы і, магчыма, свету. Дрэнна я гэта бачу. Будучыня дэмакратыі стаіць пад вялікім пытальнікам.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Асветная стратэгія

Тыдзень таму пісаў я ў гэтым месцы пра свае школьныя ўспаміны. Зараз таксама пойдзе гутарка пра асвету і яе беларускі кантэкст, але ў сённяшнім вымярэнні. А ўсё дзякуючы прайшоўшай 22 чэрвеня сустрэчы ў сядзібе Падляшскага ваяводы з удзелам урадавай і самаўрадавай адміністрацый, а таксама арганізацый беларускай нацыянальнай меншасці. Сустрэча мела на мэце падсумаванне стратэгіі развіцця асветы нашай меншасці ў Польшчы, прынятай два гады таму. Бакі тады дамовіліся сустракацца дзеля ацэнкі зробленага штогод. Такое спатканне мела месца год таму, 28 красавіка 2015 г. і выкананне тады паднятых тэм і праблем разглядалася менавіта зараз. Сустрэчу адкрыў і яе вядучым быў начальнік Дэпартамента рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных ды этнічных меншасцей Міністэрства ўнутраных спраў Дабеслаў Жэмянеўскі. Урадавы бок прадстаўлялі яшчэ інспектар згаданага міністэрства Яраслаў Малэцкі і Гражына Плашайская з Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Арганізацыі беларускай нацыянальнай меншасці, у тым ліку Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АББА, Беларускае гістарычнае таварыства, Беларускі саюз у Польшчы, Літаб'яднанне „Белавежа” прадстаўлялі Кацярына Паўлоўская, Барбара Пякарская, Аліна Ваўранюк, Алег Латышонак, Славамір Іванюк, Яўген Вапа і Ян Чыквін. Асветныя ўстановы з навучаннем беларускай мовы прэзентавалі дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім Андрэй Сцепанюк, намесніца дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы (бельскія «тройка» і гімназія) Ірына Яблушэўская, метадыст і настаўніца беларускай мовы Белліцэя ў Гайнаўцы Іаланта Грыгарук. Былі таксама дырэктары і настаўнікі садка № 14 і Непублічнай праваслаўнай школы імя Кірылы і Мяфодзія з Беластока, настаўніцы з Нараўкі і Дубіч-Царкоўных. Былі прадстаўнікі самаўрадаў, ваяводы, куратары, універсітэта.

Так як і год раней размова распачалася з праблем дзіцячага садка № 14 у Беластоку — адзінага, дзе вывучаецца беларуская мова. Як паінфармавала загадчыца асветнага аддзялення ў беластоцкім самакіраванні Люцыя Ажахоўская, на наступны навучальны год у беларускія групы запісалася 125 дзетак. І гэта рэкордны рэзультат рэкрутацыі. Аднак у сувязі з гэтым дзве групы беларускіх дзетак будуць працаваць па-за садком, даволі далёка ад сваёй сядзібы. Таму ўсе прысутныя выказалі меркаванне і спадзяванне, што гарадскія ўлады зробяць яго цалкам беларускім, каб усе дзеці былі ў адным будынку. Дзеля гэтага павінна наступіць і разбудова садка — пра што гаварыў Алег Латышонак з Бацькоўскага камітэта садка. Зусім другая праблема з наборам у беларускія групы ў дзіцячым садку ў Гайнаўцы. Там ніхто не паклапаціўся, каб праінфармаваць бацькоў, што могуць запісваць сваіх дзяцей у беларускія групы. Прысутная на сустрэчы прадстаўніца бургаміcтра горада Гайнаўкі Іаланта Сцепанюк забавязалася яшчэ цяпер праінфармаваць бацькоў пра такую магчымасць.

Справы, звязаныя з выданнем новых падручнікаў, пакуль завешаныя таму, што ў панядзелак 27 чэрвеня міністр адукацыі аб'явіла новую канцэпцыю і структуру школьнай сістэмы. Напэўна ўжо вяртаецца чатырохгадовы ліцэй. І васьмікласная, пачатковая школа. Таму тут заціша, але ёсць людзі гатовыя пісаць падручнікі. Да канца года мае выйсці друкам рыхтаваная Беларускім гістарычным таварыствам «Гісторыя беларусаў Падляшша». А на сустрэчы аб'яднанне АБ-БА прэзентавала свой трэці нумар «Беларуская настаўніка».

У ходзе сустрэчы вялася таксама размова пра створаную ва Універсітэце ў Беластоку этнафілалогію. Прарэктар Ежы Галіцкі пагадзіўся з прысутнымі, што патрабаваная квота набору 30 студэнтаў практычна нерэальная. Таму ўлады ўніверсітэта гатовы даць згоду на меншую колькасць студэнтаў. Андрэй Сцепанюк звярнуў увагу на тое, каб даць магчымасць выбіраць беларускую этнафілалогію як другі кірунак студэнтам старэйшых курсаў, а ніжэйпадпісаны запрапанаваў, каб даць студэнтам усяго беластоцкага ўніверсітэта магчымасць выбіраць беларускую мову як замежны лектарат. Што з гэтага ўсяго атрымаецца, пабачым праз год.

**Яўген ВАПА**

# Танцы
## на Двары Валілы



**Было...**

Валілы — адзін з аб'ектаў, які першапачаткова належаў да Гарадоцкай маёмасці. Гісторыя фальварка, а затым двара ў Валілах, некароткая. Калі ў сярэдзіне XVI стагоддзя рэарганізавалі Гарадоцкую маёмасць, выдалілі за межы горада гаспадарчую частку і стварылі фальварак у Валілах, пакінуўшы ў Гарадку «замак», выконваючы рэзідэнцкую функцыю. Фальварак у Валілах распалажылі ўдалечыні ад сялянскіх сядзіб на схіле ўзгорка, які мякка ападаў да ракі Супрасль і яе прытока (у аснове на гэтыя цёкі ў пазнейшыя часы былі тут разбіты дзесяцігектарныя сажалкі). Пры фальварку быў разбіты «італьянскі» сад, верагодна, дзесяцікватэрны, верагодна, з кампазіцыяй характэрнай для Рэнесансу — квадратных кватэр, аколеных прысадамі або алеямі і, магчыма, запоўненых не толькі карыснымі для гаспадаркі насаджэннямі. Пазней двор Валілы быў перабудаваны ў духу барока. Была падкрэслена асноўная кампазіцыйная вось, накіраваная на сажалку, размешчаную на патоку. Вось прабягала праз падзелены на кватэры агарод і на ёй у самым сэрцы кампазіцыі размешчаны быў палац. Аддзеленыя адзін ад аднаго агародныя праспекты захавалі частку рэнесанснага падзелу, але яны набралі значна больш дэкаратыўнага характару. Паміж 1835 і 1840 гадамі ў Валілах быў пабудаваны новы драўляны палац, а агарод перабудавалі ў духу класіцызму.

Частка маёмасці (з рэзідэнцыяй) стала ўласнасцю княгіні Надзеі Трубяцкой, да якой належалі яны ад 1892 па 1899 год, а ў 1899 годзе купіла іх частку Яўгенія Гасбах. На гэтай частцы маёмасці, якая раней належала Надзеі Трубяцкой, ляжаў доўг 27 тыс. рублёў, узяты ў Віленскім зямельным банку, які Яўгенія Гасбах пагасіла каля 1913 г. У міжваенны перыяд у двары ў Валілах жыў з 1924 года сын Яўгеніі і Артура Гасбахаў, Аляксандр, які з 1934 года быў ужо ўладальнікам маёмасці. Гасбахі яшчэ раз перабудавалі двор. Пасля 1899 г. пабудавалі ў Валілах новы мураваны палац і комплекс драўляных гаспадарчых будынкаў. Рэгулярную садовую кампазіцыю спрабавалі аднавіць на натуралістычную, уводзячы нерэгулярныя насаджэнні — кветнікі, клумбы і групы кустоў розных відаў. Гаспадарчы агарод знаходзіўся тады за сажалкамі, падобна як гаспадарчыя пабудовы, і вяла да іх з палаца адна з брукаваных алей, праходзячая мост праз сажалку. Да сажалкі таксама вялі дзве іншыя паралельныя алеі — адна бегла ўздоўж лініі бакавога фасада палаца, а другая на поўдзень ад палаца. Уся кампазіцыя займала каля 8 гектараў.

У 1915 г. разбурылі палац і іншыя будынкі, а агарод быў знішчаны. Палац не быў адноўлены, але пабудаваны новы цагляны жылы дом, размешчаны ў агародзе ў іншым месцы, па дарозе на Гарадок. Тут было дзевяць пакояў, але, відаць, не задавальнялі яны патрэб, таму для жылых мэт прыстасаваны быў стары хлеў. У 1915-1918 гадах пабудаваны быў таксама «чваракі» для службы, размешчаныя ў гаспадарчай частцы маёмасці.

У 1925 г. аддалі ў арэнду тэрмінам на 15 гадоў Анатолю Губану прастору плошчай у 80 гектараў, прыдатную для рыбнай фермы, дзе на працягу бліжэйшых некалькіх гадоў узнік вялікі комплекс сажалак, размешчаных на паўднёвы захад, захад і на поўнач ад двара. Гэтыя сажалкі спалучылі з дваром ліпавай алеяй, якая з'яўлялася працягам адной з паркавых алей. У сувязі з інвестыцыяй узяты быў крэдыт, які не быў пагашаны — у выніку таго, што занялі лугі, зменшылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы, што прывяло да зніжэння рэнтабельнасці гаспадаркі. Вынікам стала пераняцце ў 1937 г. актываў Зямельным банкам, у якога валоданні маёнтак заставаўся да Другой сусветнай вайны. Пасля вайны была тут створана Дзяржаўная сельская гаспадарка — ПГР, якая збудавала тут шэраг новых гаспадарчых будынкаў. Да 1937 года агароды былі клапатліва дагляданыя, але пасля 1937 года пачалося спусташэнне парку, якое ўзмоцнілася ў час Другой сусветнай вайны ды працягвалася і пасля вайны. Парк часткова зарос, выдалілі з яго вялікую частку старых дрэў, амаль цалкам разбураны насаджэнні з перыяду натуралістычнай рэканструкцыі. Толькі дзякуючы адростам усё растучых раслін можна распазнаць фрагменты старадаўніх град і бег садавых прысад. Можна тут таксама знайсці сляды руін і склепаў палаца, аколеныя зараснікамі з парэштак аздобнага кустоўя...



**Жывуць...**

Аўтобус едучы з Беластока ў Гарадок праз Залукі і Валілы мінае вялікія сажалкі, гаспадарчыя пабудовы, пасля ўязджае ў рэдкі ў вёсках краявід — праваруч стаяць пасярод несумненных паркавых рэштак старадрэў звычайныя гарадскія блокі. Яны зверху аблупленыя, але ў сярэдзіне шыкуецца еўрарамонт, былыя працаўнікі ПГРа, жыхары пасляпэгээраўскіх сучасных «чваракаў» аб'ядналіся ў кааператыўную супольнасць. Яны і рашылі супольна, што кватэрныя аплаты будуць у пару соцень большыя, каб адрамантаваць будынкі ад даху да склепаў. А за дамамі, пабітыя на доўгія і вузкія палоскі-«кватэры», кожны мае свае градкі з карыснымі для гаспадаркі раслінамі. Ганна Садоўская, да якой прывёў мяне яе ўнучак Віктар. Сустрэла я яго ў кустоўі пад блёкамі, якое выглядае на нейкае нетутэйшае, а прынамсі невясковае. Ганна шыкуецца да фэсту. Яна вядомая чытачам «Нівы» аўтарка беларускіх вершаў, сарганізавала валілаўскіх гаспадынек да творчай працы. А сёння адна з іх — ад шмат тэрмінаў солтыска вёскі Валілы-Двор, таксама Аня, Пятэльская, сарганізавала «Забаву на двары ў Валілах-Двары». І надвор'е як на заказ — гарачае, ужо летняе, хаця чэрвеньскае, але з ветрыкам. А той ветрык так хораша дзьме ад сажалак! І не чуць ніякіх «свіных» пахаў, якія часам убіваліся нават у салон аўтобуса, што мчаўся побач прыпынку, на які зрэдку хто выходзіў. На футбольным полі амаль перад іхнім блёкам, каля луга, сохне свежаскошанае сена. А з наступнага аўтобуса, і з аўтамашын пачынаюць неўзабаве выходзіць госці — з Гарадка, суседніх вёсак, а нават з Міхалова ці Беластока. Фэсты, якія арганізуе Гмінны цэнтр культуры — дом культуры імя Кастуся Каліноўскага, разам з солтысамі вёсак Гарадоцкай гміны — прыцягваюць вялікую публіку. Асабліва цешацца імі мясцовыя, як бабуля Жэня, прабабка Віктара, і Міхала, і Маі... Віця спявае ёй у хаце, карыстаючыся Ютубам, беларускія песні, між іншым, «Прымакоў». Сёння ён, шасцігадак, але перайшоўшы ўжо ў другі клас пачатковай школы ў Гарадку, заспявае на сцэне разам з панам Юркам і паняй Багусяй слаўную песню «Кахаю». І ўпарта скажа маме: «Ты запішы мяне на беларускую мову! І Маю запішы, яна ж раней хадзіла на ўрокі, а ты іх выпісала!». І Мая, танцорка, таксама будзе хадзіць за сваёй сучаснай мамай з пурпурным іракезам на галаве і патрабаваць таго самага — каб тая дазволіла ёй вярнуцца на заняткі беларускай мовы ў гарадоцкай школе. Бо тут таксама будзе беларускі фэст, а яна ўмее гаварыць па-свойму, найлепш з бабуляй Аняй і прабабкай Жэняй. Усе яны пойдуць на валіладворскія спевы і танцы, дзе выступяць усе калектывы, якія дзейнічаюць пры ГЦК — «Рассяпваны Гарадок», дзіцячая «Казка», «Хутар», «Вена», «Асенні ліст», «Гуляй душа» — там дзе спяваюць міхалоўскія маладыя спевакі, што прыйшлі сюды за спадаром Юркам — Наталля Алексяюк, Адрыян Данілюк, і Адрыян Ягораў, што яго тата з міхалоўскіх Залешан, а мама з гарадоцкага Дзернякова. А ўсю беларускую імпрэзу, першы раз, павядзе Аляксандра Яроцкая дый яшчэ і заспявае — гэтая маладзенькая паэтэса і мастачка, зараз перад выездам на Сустрэчы «Зоркі». На падворку тыпова як на ўсіх фэстах — можна купіць цацкі, смакоцце, пачаставацца напоямі і піўцом, якое зафундаваў новы «дзедзіц» — уласнік былой дзяржаўнай гаспадаркі, які цяпер будзе займацца таксама сажалкамі і гадаваць «такууууую рыбу». Вельмі прыхільна ставяцца да яго тутэйшыя, а і ён стараецца паддобрыцца мясцоваму насельніцтву, бо ж не хоча лічыцца «навалаччу». Гаспадарыць! І ён смяяўся ад душы, цешыўся, пачуўшы і ўбачыўшы «цвік праграмы» — выступленне «Арыгінальнай Ані», што ўехала на маторы пад сцэну і ў форме рэпу прадставіла ўсю ваколіцу і сябе самую:

Як сядаю на матор,  
та бурчыць ён як патвор.  
Тагды мой адрэналін  
цісне газ і з трубы дым.  
Быццам вёз мяне ён сам.  
Тут грыбочак, грыбок там.  
Назбіраю два вядры,  
на матор, і зноў у Двары.  
Мой маторык, мой цудак!  
Заліваю поўны бак.  
Еду лесам, еду полям,  
еду я сваім маторам.  
Я шаную свой матор,  
хоць не «Гонда», не «Чапор».  
Проста ён малы «Рамэцік».  
Ён найлепшы мне ў свеце!  
Лёгкі, спрытны і бурчыць.  
Хваціць задніцу вазіць.  
Усё канчаю пра матора.  
Паздраўляю  
— Гандзя з Двора!

Маладзік «хадзіў па небе», а моладзь і старэйшыя па старадаўніх прасторах тупалі да рання, прытоптваючы падмуркі палацаў і хат ды ўпартыя колішнія расліны, якія штогод прабіваюцца да жыцця.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Беларускі фэст у Лешуках



У нядзелю, 19 чэрвеня г.г., у вёсцы Лешукі (налічвае яна 120 жыхароў) Нараўчанскай гміны пасля поўдня ладзілі беларускі фэст пад лозунгам „І там жывуць людзі". Надвор'е было сонечнае, цёплае. Сабралася шмат людзей — перш-наперш былі гэта жыхары Лешукоў і бліжэйшых суседніх вёсак Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Міхнаўкі, Церамкоў, Кардону і Сушчы. На фэсце можна было яшчэ сустрэць жыхароў і Нараўкі, і Альхоўкі, і Семяноўкі і нават Гайнаўкі.

Канцэрт вяла Марыёля Герман-Петручук, адна са спявачак эстраднага калектыву „Арт.Пронар" з Нарвы. Першымі на сцэне ў прыгожых народных касцюмах выступілі „Нараўчанкі" з Нараўкі. За імі — два калектывы з Гайнаўкі: „Прагрэс" і „Давід Шымчук Бэнд". Усе яны выступілі з прыгожымі беларускімі і рускімі песнямі і развесялілі публіку.

Капэла „Хутар" з Гарадка (на здымку) заспявала папулярныя беларускія песні, а яе музычны кіраўнік Янка Карповіч прачытаў два гумарыстычныя вершы „Дзень выплаты" і „Жонка мужа пахавала" Аркадзія Леўшука з Ціванюкоў. Слухачы ўзнагародзілі яго бурнымі воплескамі.

Чатырохгадзінны фэставы канцэрт закончыўся выступленнем эстраднай маладзёжнай групы „Арт-Пронар" з Нарвы (вядзе яе Янка Снарскі). Звонка і дынамічна праспяваў і зайграў ён многа песень. Асабліва прыгожа спявалі дзве дзяўчыны. Усе прысутныя былі ў добрым ды радасным настроі.

Падчас канцэрта працавала крама з беларускімі кніжкамі, сувенірамі і народным рукадзеллем. Адкрыта была таксама мясцовая прадуктовая крама.

Фэст арганізавалі Тамаш Ціханюк — дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы ды Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны і Галена-Марыёля Рэент — дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы. На працягу апошніх васьмі гадоў было гэта пяцідзясятае мерапрыемства пад лозунгам „І там жывуць людзі". У Лешуках фэстаў не было некалькі дзясяткаў гадоў.

# Купальская ноч у Нараўцы

Набліжаецца цудоўная Ноч Купалы. 7 ліпеня гэтага года войт гміны і дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы ладзяць з гэтай нагоды беларускае абрадавае мерапрыемства „Ноч Купалы" ў Нараўцы ў амфітэатры на беразе пушчанскай ракі Нараўкі.

А гадзіне 19.30 рушыць карагод фальклорных калектываў ад ГАК пры вуліцы Новай у напрамку надрэчнага амфітэатра. А гадзіне 20 Марк Цясноўскі і вакальна-музычная група „Дынг Донг" пачне канцэрт, у якім прымуць удзел фальклорныя калектывы „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і „Нараўчанкі" з Нараўкі ды калектыў з Беларусі. Зоркай вечара будуць „Прымакі" з Гарадка. А гадзіне 23 — Тэатр Агню, 23.30 — пусканне вянкоў на рацэ ды разнаколерныя феерверкі. Танцавальная забава ад гадзіны 24 пад музыку калектыву „Avanti".

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

1 ☞працяг

# Юбілей Арэшкаўскай школы

непублічных школ у нашым рэгіёне. Прадстаўнікі «Адукатара» — старшыня Барбара Кучалэк і Тадэвуш Зарэмба — прыбылі на арэшкаўскі юбілей з цёплымі пажаданнямі.

— Калі мы ехалі на сесію Рады Гайнаўскай гміны з просьбай дазволіць адкрыць у нас непублічную школу і са мной ехала 17 машын з жыхарамі Арэшкава і наваколля, гэта моцна падбадзёрвала да змагання за захаванне школы. Удалося гэта зрабіць. Спачатку мы ўклалі многа працы, парадкуючы школьную пляцоўку і дапамагаючы рамантаваць будынак, — сказаў Уладзімір Галёнка, якога дырэктар Крайнік назвала галоўным завадатарам арганізавання непублічнай школы ў Арэшкаве.

Іншыя бацькі цяперашніх вучняў сказалі, што цешацца дзейнасцю непублічнай школы. Дабавілі, што ў школе арганізоўцца культурныя мерапрыемствы, на якія сходзяцца дарослыя і моладзь, так як было падчас святкавання юбілею. Былыя вучні, якія з'ехаліся на юбілейнае мерапрыемства, таксама выяўлялі задавальненне, што школа ў Арэшкаве дзейнічае, хаця і з невялікай колькасцю вучняў і дашкольнікаў. Я працавала настаўнікам у Пачатковай школе ў Арэшкаве ў 1991-1993 гадах, калі ў васьмі класах вучылася яшчэ больш за сто дзетак, і прыемна было спаткаць на школьнай плошчы сваіх вучняў і паразмаўляць з імі.

— Я была вучаніцай арэшкаўскай школы і ўжо доўга працую настаўніцай гэтай школы. Я добра ўспамінаю мінулае школы. Сёння спаткала сваіх настаўнікаў і былых вучняў. Мы падрыхтавалі цікавыя конкурсы, якія будуць садзейнічаць успамінам. Нашы дзеткі выканалі рысункі, нібыта партрэты нашых выпускнікоў і ззаду на партрэтах можна будзе нешта напісаць пра свайго сябра або сяброўку, паўспамінаць. Цікавейшыя выказванні будуць узнагароджаны. Будуць таксама згадвацца сужонствы, якія завязаліся дзякуючы нашай школе і для такіх сужонстваў падрыхтаваны неспадзяванкі, — распавядала настаўніца беларускай мовы і пачатковага інтэграванага навучання Ірэна Герасімюк, вучні якой паспяхова прымаюць удзел у конкурсах. — Зараз у нашай школе займаецца 18 вучняў (17 ходзіць на заняткі беларускай мовы) і 5 дашкольнікаў.

Пра вучобу беларускай мове ў арэшкаўскай школе добра ўспамінала таксама былая настаўніца Валянціна Касцевіч, раней Дзмітрук, якая пераняла гэтыя абавязкі ад настаўніцы Ірэны Варанчук. На сцэну былі запрошаны настаўнікі, якія ў Пачатковай школе ў Арэшкаве працавалі найдаўней, частка з іх яшчэ ў старым драўляным школьным будынку — сужонства Пётр і Марыя Бура, Марыя Харкевіч, Люба Гурын, Вера Маліш і Ян Сычэўскі, зараз старшыня БГКТ.

— Я пачаў працаваць у Падставовай школе ў Арэшкаве ў пяцідзясятых гадах. Мы тады падперлі столь у нашай школе драўлянымі стаўбцамі і пераконвалі візітатараў, што вучням небяспечна вучыцца ў старым драўляным будынку, які можа заваліцца. Гэта дапамагло і было прынята рашэнне будаваць у Арэшкаве мураваны будынак, — сказаў былы настаўнік арэшкаўскай школы Пётр Бура. — Я будучы тут настаўнікам, пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Марыяй, жыхаркай Арэшкава і мы ў сужонстве пражылі ўжо 61 год.

На мерапрыемства прыбылі таксама члены славутага калектыву «Арэшкі» з Арэшкава — Марыя Скепка, Надзея Грушэўская і Тацяна Гурын, якія добра ўспаміналі вучобу ў старым драўляным будынку. Перад сабранымі на школьнай пляцоўцы выступілі танцоры з калектыву «Звёздачкі», з якімі займаецца настаўніца Анета Алексяюк. Пабеларуску прыгожа спявалі члены школьнага музычнага калектыву «Вясёлыя097 ноткі», з якім працуе настаўніца Марта Вэршка. Падчас перапынку сабраныя частаваліся смажанымі на грылі каўбаскамі і напіткамі, а таксама хадзілі па школьным будынку, успамінаючы дзе і якім прадметам вучыліся. У спартыўнай зале працавала фотавыстава. Выпускнікам школы і былым настаўнікам цікава было паглядзець палатняныя вырабы рукадзелля, хатнія прылады працы і стары посуд, якія знаходзяцца ў школьным музейчыку «Родная хатка».

— Школа вучыць дзетак і арганізуе культурнае жыццё жыхароў Арэшкава. Я рады, што школа надалей дзейнічае, — сказаў протаіерэй Лявонцій Анхім, настаяцель Арэшкаўскага прыхода і настаўнік Божага закона ў мясцовай школе.

Пасля адпачынку за кавай і гарбатай перад публікай выступілі танцоры з фітнесклуба ў Гайнаўцы, спяваў хор леснікоў з Белавежы, а пазней да танцаў іграў калектыў «Метра» з Гайнаўкі, лідар якога Данель Сакоўскі жыве ў Арэшкаве.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Прысвячаецца
**АННЕ БЖАЗОЎСКАЙ,**
**настаўніцы беларускай мовы з Бельскага белліцэя**

Каб асвоіць многа ведаў,
Кожны Ваш урок наведаў.
Вы так шчыра нас любілі!
І пра ВКЛ вучылі!
Вы навіны прадстаўлялі,
Беларускасць прамавалі.
Вось і нас пераканалі,
Каб свой кут не забывалі.
Каб усё жыццё казалі,
Моцным голасам спявалі:
„Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы!"
Адным голасам, супольна
Усе жадаем Вам жыць доўга.
Каб у цяжкі, змрочны дзень
Вам усмешкі не скрыў цень.
Каб жылі Вы нам здаровы,
Без тугі і безграшоўя.
Каб маглі Вы без турботаў
Паляцець у свет самалётам,
Ці то ў Мінск, ці ў Аргенціну.
Поспех каб Вас не пакінуў!
Каб пра Вас не забывалі,
Каб у "Ніве" напісалі
І на "Рацыі" сказалі,
Як аддана нас вучылі,
З роднай мовай заручылі.
Пара нам ужо развітацца
І на картцы распісацца.
Не забудзем мы пра Вас,
Ваш найлепшы ў свеце клас!



Трэці «а» клас з Аннай Бжазоўскай (у цэнтры) і настаўніцай Ірэнай Траянчук

# Прагрэс у нічым невінаваты

„Цяжка быць паэтам у сучасным свеце і цяперашнім часе", — наракае Юрка Буйнюк („Быць паэтам", „Ніва" ад 29 мая 2016 г.). І далей: „У свеце глабальных электронных масмедыяў ды простага доступу да інфармацыі зусім няма месца для літаратуры". Нараканне Юркі Буйнюка не здзіўляе тых чытачоў „Нівы", якія ведаюць Юрку як паэта. У яго досыць змястоўны, амаль што не сацыялагічны навуковы доследм, мяркуючы па яго рашучых сцвярджэннях, што „ў наш час пісьменнікаў заступілі спартсмены, акцёры тэлесерыялаў, усялякія шоўмены ды шарлатаны шоў-бізнесу".

Па-мойму, і ў сучасным свеце, і зараз у цяперашнім часе, і ў мінулыя гады, і ў колішнім свеце паэтам не было лёгка, але заўсёды на першым месцы былі верш, а потым яго аўтар. І ні пры чым тут тое, што „сучасны пісьменнік не выжыве ды не выкарміць сваёй сям'і".

Але я не пра палітыку сацыяльнай падтрымкі мастацкай творчасці паэтаў, музыкаў, харыстаў ці філармонікаў. Юрка Буйнюк у сваім фельетоне піша праўду пра недастатковую дзяржаўную палітыку, звязаную, агульна кажучы, з культурай, але ў нічым невінаваты тут прагрэс, электронная тэхніка, а перш за ўсё інфарматыка. Каб не біяінфарматыка, каб не электронны мікраскоп, наўрад ці мікрабіёлагі разабралі б на часткі храмасомы з іх генамі, а мікрахімікі аб'ядналі б розныя атамы ў лякарства так патрэбнае на розныя хваробы і ці мікрафізікі маглі б мадэляваць рост канцара і так далей. Доўга можна пералічваць карысці так ад электроннай тэхнікі, як і ад „электронных масмедыяў". Хто, як не паэт, павінен разумець, што культура гэта і навука, і тэхніка, і літаратура, і верш, і сатырычны рысунак на сцяне нейкага блока.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

# IKEA - прасвятляюць кожную калоду

16 чэрвеня г.г. група радных і кіраўніцтва Арлянскай гміны ды войт і сакратар Чыжоўскай (разам 16 асоб) аглядалі фабрыку кампаніі IKEA ў Кошках. Наведвальнікаў па амаль усіх цэхах праводзілі некалькі гідаў. Пасля дзвюх гадзін гасцей запрасілі ў канферэнц-залу на пачастунак, працягвалася далейшая прэзентацыя фірмы, можна было ставіць пытанні. Гэта быў другі візіт самаўрадаўцаў, першы адбыўся ў час урачыстага адкрыцця фірмы 17 чэрвеня 2011 года.

Зараз у IKEA Industry Orla працуе 260 асоб з розных старон краіны. У ліку працаўнікоў абучаных на Захадзе толькі некаторыя загадчыкі і брыгадзіры, якія пазней могуць абучаць на месцы іншых працаўнікоў. Ёсць спецыялісты, напрыклад механік-аўтаматык, якія рэгулярна ездзяць абучацца да вытворцаў машын. Іншыя абучаюцца на месцы.

Медыцынская апека? Няма такой. Кожны працаўнік фірмы IKEA абучаны несці першую дапамогу, два разы ў год адбываюцца маштабныя абучэнні, завод мае два дэфібрылятары.

Фабрыка займае 160 гектараў і некаторыя працаўнікі перамяшчаюцца па ёй на веласіпедах або электрамабілях. Завод супрацоўнічае з ахоўнымі, прыбіральнымі і транспартнымі фірмамі.

Наведвальнікаў забяспечылі ў антыфоны (рэдуктары шуму), беручы пад увагу высокі ўзровень шуму ў некаторых цэхах. Таксама ў некаторых цэхах забаронена выконваць здымкі, бо ад гэтага магла б задзейнічаць пажарная сігналізацыя і спыніць усю фабрыку.

На фабрычных пляцах вялікі запас драўніны, якой, як паведаміў праваднік, хапіла б толькі на паўтара месяца працы завода. Для разгрузкі сыравіны ёсць мабільная машына грузапад'ёмнасцю ў 16 тон.

Адкуль драўніна? Галоўным чынам з Беларусі. Прывозяць яе цягнікамі, правяраюць яе якасць і дыяметр. Драўніну купляюць таксама ў Дзяржаўных лясах. Калі драўніну прывозяць цягніком, яе складваюць на пляц, дзе чакае сваёй чаргі. Грузавікі разгружаюцца самі. На сартавальні два сканеры. Першы праводзіць уступны агляд драўніны — яе даўжыні, таўшчыні і крывізны. Калі параметры задавальняючыя, калода прасоўваецца далей, дзе трапляе пад наступны сканер 3D, які, між іншым, правярае наяўнасць металічных элементаў. Горшы матэрыял ідзе на вытворчасць драўнянавалакністых пліт (HDF).

Цікавінка: біямаса, якая тут вытвараецца, недастатковая для ўтрымання катла, таму яна дадаткова дакупляецца. Адзінае месца ручной працы на ўпакоўцы дошак.

Працуе шэсць сушыльных камер: у кожную з іх умяшчаецца 115 кубікаў тонкіх дошак або 190 тоўстых. Працэс сушкі залежыць ад таўшчыні і для тонкіх дошак доўжыцца 4-5 дзён — залежна ад пары года. Тоўстыя дошкі сушацца 10 дзён. Працэс працяглейшы зімою, бо даходзіць этап размарожвання. За месяц сушаць 3,5-4 тысяч кубічных метраў. Вырабляюць каля 4,2 тысячы кубічных метраў; большасць гэтай вытворчасці трапляе на завод групы IKEA ў Канстантынаве-Лодзінскім, дзе вырабляюць крэселкі. Бываюць заказы на сырыя дошкі.

Фабрыка не выдзяляе ў атмасферу выхлапных газаў, толькі пару. Прыборы так збудаваныя, што ўсе газы ад біямасы ачышчаюцца электрафільтрамі і спынены матэрыял трапляе на прадукцыю. Завод мае дзве студні патрэбныя для тэхналогіі вытворчасці пары, якая змякчае драўніну. Толькі частку вады завод чэрпае з гміннага водаправода, напрыклад для прыбіральняў.

Штогод у ліпені завод спыняецца на два тыдні дзеля кансервацыі машын, каб пасля зноў можна было цягам года беспярапынна працаваць. Рабочыя маюць тады яшчэ больш працы. Дадаткова прыязджае каля паўтысячы людзей, якія прыводзяць усё да парадку. Кожную трубу, у якую магчыма ўвайсці, выскрабаюць знутры. Аварыі здараюцца рэдка.













Цяпер няма планаў разбудовы. Раней была думка пра фабрыку крэслаў, але паколькі выступае лішак вытворчай магутнасці на іншых заводах у Польшчы, тады няма сэнсу ўзводзіць нешта новае. Але планы могуць памяняцца...

Выказванне Катажыны Якубовіч, загадчыцы аддзела HR (Human Resources — чалавечыя рэсурсы) завода (прыехала на працу з Жэшава):

— Найважнейшым дабром у фірме з'яўляюцца не машыны, толькі чалавек. IKEA з'яўляецца працадаўцам на тэрыторыі Арлянскай гміны, але не толькі, бо мы не хочам абмяжоўвацца толькі да Орлі, хочам дзейнічаць глабальна, хочам быць бачнымі ў ваяводстве. Канцэрн фірмы IKEA мае 41 завод у дзесяці краінах. Польшча з'яўляецца адным з найбуйнейшых кангламератаў, тут працуе каля дзесяці тысяч чалавек. Нашы заводы раскінуты па ўсёй Еўропе — Партугалія, Славакія, Швецыя, Расія, Латвія, Польшча, Венгрыя, Францыя ды Кітай і Злучаныя Штаты. Хочам ствараць выключныя вартасці для кліента, ставім націск галоўным чынам на якасць і цану ды магчымасць развою так у групе, як і навонкі яе.

У канферэнц-зале працаўнікі фірмы адказвалі на пытанні гасцей:

— Ці завод не атручвае?

— Не атручваем, бо наш завод мадэрны, абсталяваны навейшымі сусветнымі тэхналогіямі, напрыклад, сыры фільтр, з якога ў атмасферу выходзіць толькі пара. Гэта адна з самых мадэрных установак датычных газаў і вентыляцыі. Гэтаксама маем ачышчальню сцёкаў — цэлую сістэму фільтрацыі і прымянення вады для арашэння калод. Фабрыка можа ганарыцца тым, што сюды прыязджаюць экскурсіі, якія вучацца прымяняць экалогію, як можна быць чыстым заводам у гэтай прамысловасці ў наш час.

— Што пра завод IKEA думаюць суседзі?

— Трэба іх пра гэта спытаць. Спадзяемся, што думаюць пра нас станоўча. З'яўляемся добрым суседам, добра вядзем наш бізнес. (Паводле некаторых жыхароў навакольных вёсак часам ад завода IKEA нясе непрыемны пах).

— Якія карысці мае Арлянская гміна?

— Карысці відавочныя, бо плацім падаткі. Да таго ж стараемся падтрымліваць мясцовыя ініцыятывы, супрацоўнічаем са школамі. Гэта бачыцца апошнім часам, калі загадчыкам чалавечых рэсурсаў стала пані Кася і нашы захады ў напрамку кантактаў з мясцовым грамадствам сталі больш насычанымі. Былі Дні Бельска, прысутнічалі ў іншых мясцовых ініцыятывах, стараемся ладзіць пастаяннае і стабільнае супрацоўніцтва з Арлянскай гмінай, хаця б у дзяляньні транспарту нашых працаўнікоў. (Паводле інфармацыі арлянскай Гміннай управы падаткі ад фірмы IKEA сягае амаль чатырох мільёнаў злотаў).

— Якія планы на будучыню?

— Маем маштабныя планы і спадзяванні і калі гэта тут спрацуе, то будзе гэта кранаць не габарытную разбудову, але кадравую.

**Запісваў і пытаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Не рэагуюць на крытыку

15 кастрычніка 2015 года я, як аўтар тэксту і карэспандэнт „Нівы", паслаў у тэлекамунікацыйную фірму „Тэлестрада" тэкст публікацыі „Пакінулі ў дурнях" („Ніва" № 34 ад 23.08.2015 г.) і папрасіў адрасата акрэсліць сваё стаўленне да крытычных заўваг абанента Надзеі Сахарчук. 92-гадовая бабулька з Маліннік адчувала сябе пакрыўджанай, паколькі агент, які рэкамендаваў ёй таннейшы абанемент (за 15 зл.), не выявіў сутнасці правілаў, якія абавязваюць у тэлеаператара ГСМ, толькі сунуў паперку паставіць подпіс. Старэча, не разабраўшыся, распісалася. І выніклі праблемы.

Неўзабаве Надзея Сахарчук атрымала пасылку з новым тэлефонам і пісьмом, у якім паведамлялася, што яе нумар стацыянарнага тэлефона будзе перанесены да сеткі ГСМ, а ўсе справы паміж тэлеаператарамі ўжо вырашаны. Толькі на прывітанне (без копіі заключанай дамовы, статута ды цэнніка паслуг). Новы тэлефон бабулька праз свайго прадстаўніка 23 ліпеня 2015 г. адаслала, затым падала заяву на скасаванне падпісанай дамовы. У пісьме ад 29 ліпеня „Тэлестрада" інфармавала, што скасуюць дамову 31.08.2015 г. З таго часу Надзея Сахарчук пачала атрымліваць з „Тэлэстрады" рахункі за ліпень — 22,55 зл., жнівень — 19,67 зл., штраф за датэрміновае скасаванне дамовы — 218,75 зл., за вернуты тэлефон і незаплачаныя рахункі — 241,71 зл. У агульным падліку — 502,68 зл. Хваравітая бабулька не заплаціла, паколькі ледзь канцы з канцамі зводзіць. Але моцна пеаражывае і баіцца, што яе можа наведаць судовы выканаўца і за даўгі забраць каштоўныя рэчы з хаты. Паспрабаваў я разабрацца ў гэтай супярэчнай справе.

На пасланае мною ў кастрычніку мінулага года пісьмо наконт змешчаных у артыкуле крытычных заўваг Надзеі Сахарчук „Тэлестрада" не адказала. У снежні папрасіў я прысылаць копію заключанай дамовы для ўнясення скаргі Заступніку спажывецкіх правоў. Безвынікова. Адказалі, што ў мяне няма паўнамоцтваў ад абанента. Калі я патлумачыў, што патрабую каментарыя наконт публікацыі змешчанай у „Ніве", як публіцыст, дык атрымаў адпіску, што Надзея Сахарчук падпісала дамову, а той, хто яе падпісвае, абавязаны пазнаёміцца са статутам і цэннікам, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай дамовы. А кару за датэрміновае скасаванне дамовы прымяняе не толькі „Тэлестрада".

Аргументацыя працаўніка аддзела разліку і спагнання даўгоў здаецца быць неверагоднай, затым я рашыў выступіць аб паясненне справы да старшыні праўлення фірмы. Адпаведнае пісьмо паслаў 18 сакавіка 2016 г. Без адказу. Вось, даражэнькія, як хітруны з „Тэлестрады" рэагуюць на крытыку.

**Уладзімір СІДАРУК**

**P.S.** Гэтым допісам хачу перасцерагчы чытачоў перад зманлівымі хітрунамі. Абдумайце скрупулёзна тое, што падпісваеце. Не дайце звесціся.



зорка
для дзяцей і моладзі

Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl





Фота Адама Паўлоўскага

# Каларытнае развітанне са школай

*(пачатак у 25 нумары)*

Пра добрыя рэчы не забываем! Гэты прыгожы спектакль, хоць мінула шмат часу, яшчэ сёння гучыць у вушах і вяртае добры настрой. Мова пра мюзікл «Нататкі таткі». Настаўніца Аліна Ваўранюк разам з акцёрам Бернардам Баням паставілі амбітны спектакль. У яго аснову ляглі дзесяць вершаў сучаснага беларускага паэта Андрэя Хадановіча. Ужо сама спроба развучыць няпросты паэтычны тэкст — *не дзічкі*! Пастаноўшчыкі прыдумалі да гэтага пантаміму, якая прыдала словам дынаміку. Ну і галоўнае, цудоўная музыка. Яе напісала Анна Бабік, настаўніца з беларускага садка. Мы спадзяемся, што гэтыя творы, як і з папярэдняга мюзікла «Звярынкі з глыбінкі», якія паставілі нашы сябры, таксама стануць вучнёўскімі шэдэўрамі ды пашыраць рэпертуар конкурсу «Беларуская песня». Аднак, у адрозненне ад папярэдняга мюзікла, «Нататкі таткі» больш дапрацаваныя ў музычным плане. Усе дзесяць твораў, хоць самі па сабе арыгінальныя і мадэрныя, сугучныя ў цэласці. Козырам пастаноўкі з'яўляюцца таленавітыя салісты. На першым месцы тут трэба назваць прозвішчы Марысі Пякарскай і Юлі Сасны. Іх мілагучныя галасы надалі спектаклю нейкую чароўнасць і відаць за гэта атрымалі гучныя бравы публікі!

*(працяг будзе)* **Зорка**

# Было ўсё, што трэба!

*Беластоцкая гімназія № 7 зноў уразіла. На заканчэнне школьнага года тут зладзілі ІІ Сямейны пікнік. Як адзначае настаўніца Альжбета Рудкоўская, «было ўсё, што трэба: вучні, бацькі, сонца, добры настрой».*

*На пікнік прыйшлі малодшыя дзеці і выпускнікі гімназіі, якія засумавалі па настаўніцы і сябрах. Бацькі на свой кошт падрыхтавалі смачны стол. Апрача ласункаў былі спаборніцтвы паміж першымі і трэцімі класамі. Ды згодна з правіламі прыроды перамаглі старэйшыя. У падрыхтоўцы, як адзначае настаўніца, найбольш дапамагалі Янэк і Павел. Усе захацелі сустрэцца праз год. А зараз доўгачаканыя канікулы і многа асабістых планаў і падарожжаў. Жадаем добрага адпачынку!*

**Зорка**



## Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 26-27-16**

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 10 ліпеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Светлы хлопчык-маладзік**
**Адпачыць рашыў і знік:**
**Лёг у хмаркі і да ранку**
**Слухаў зорак калыханку**
**М….**

**Адказ на загадкі № 23-24-16: лета, маліна. Узнагароды, каляровыя гумкі, выйгралі Тымэк Петручук з Нарвы, Мартына Ігнатовіч з Бабік, Мартына Лукша з Нараўкі. Віншуем!**

## Вершы Віктара Шведа



### Ці ўваткнеш нос?

Цётку сваю запытаў
Дапытлівы Станіслаў:
— Ці ты ўваткнеш свой нос
У гняздо з'едлівых вос?

— Чаму захаваўся ты так
Як быццам нейкі дзівак?
— Сёння нам татка данёс,
Што ўсюды ўтыкаеш свой нос.

### Лета

Лета, лета, наша лета,
Пасля халоднае вясны,
Зямелька сонейкам сагрэта
Аб сваім шчасці мроіць сны.

Са школьных залаў
Выйшла моладзь
У адпачынкавы паход,
Каб з новай сілай зноў у школы
Вярнуцца ў навучальны год.

# Зоркі ў небе... і на зямлі

## (Рэдактар Яніне Чарнякевіч прысвячаецца)


Максім ФІЁНІК і яго «Парнасік»

Зорка — бясконцы шлях, старажытны міф, адвечная Таямніца, далёкая кропачка на небасхіле. Яна спалучыла Марка і Клеапатру ў старажытным Рыме, спалучыла славян, якія стваралі магутныя культурныя цэнтры. Гэта пад ёй палякі і ліцьвіны спявалі «Багародзіцу» ў 1410 годзе пад вёскай Грунвальд. Яна дапамагала беларусам перамагчы маскалёў у бітве пад Оршай. Злучала заўсёды беларускіх паэтаў-адраджэнцаў. Яна давала ім паэтычнае натхненне.

Углядаўся пэўна ў зоркі і Максім Багдановіч, пішучы сваю «Зорку Венеру», якая ўзышла над зямлёй. Яна давала творчае натхненне рэдактарам «Нівы», ствараючым у 1957 годзе «Зорку». Дзякуем ім за гэта!

«Зорка» была і ёсць крыніцай беларускіх асветнікаў, паэтаў. З ёй вырасла многа знакамітых людзей, напрыклад, Янка Целушэцкі, які пісаў у «Зорку» ад дзіцячых гадоў. Так як зоркі ў небе, так і гэтая ніўская, на працягу многіх гадоў спалучала і спалучае сэрцы беларускіх дзяцей. Купала кажа ў вершы «не пагаснуць зоркі ў небе» — няхай так будзе і з Табой, «Зорка»! Пакуль не пагаснуць спрадвечныя, магутныя сілы, будзеш далей даваць натхненне для новага пакалення беларускіх асветнікаў.

**Максім ФІЁНІК**, *галоўны рэдактар сустрачанскай газеты «Парнасік»*

калі ты апошні раз
гаварыў на роднай мове

калі ты апошні раз
быў у роднай хаце

калі...

ты не памятаеш
як усё
ты забыў пра сваю спадчыну
яна стаптаная людзьмі
убітая ў гліну
забытая

калі ты зразумееш
што яна найбольшай вартасцю
калі ты зразумееш
што яна тваім пасагам
калі

**Юля Бяганская**,
„Зорны шлях"


Юля Бяганская


Малюнак Юлі Бяганскай

## Мае Сустрэчы „Зоркі"

Кожны год я чакаю, каб прыехаць на Сустрэчы „Зоркі" ў Бора-Здруй. Я тут ужо чацвёрты раз і хачу сказаць, што тут вельмі файна. Я люблю атмасферу і людзей. Мне вельмі смакуе ежа, яна такая духмяная. У мяне вельмі многа сустрачанскіх сяброў. Мы любім успамінаць як было год, два, тры гады раней, прыгадваем смешныя рэчы.

На Сустрэчы прыязджае мая любімая настаўніца Іаанна Марко. Гэта яна заахвоціла мяне пісаць вершы і апавяданні.

ХХХ Сустрэчы „Зоркі" пачаліся 13 чэрвеня і будуць працягвацца тыдзень. За гэты час мы маем намер зрабіць найлепшую газету ў цэлай гісторыі Сустрэч „Зоркі". Я думаю, што тут прыадкрыюцца мне дзверы да таго, каб стаць рэдактарам газеты, празаікам або паэтэсай.

***Вераніка Кардзюкевіч**, галоўны рэдактар сустрачанскай газеты **«Зорнымі вачыма»***

Наталля Васько

## Хата

Каханне
Цеплыня
Зразуменне
Пытанні
Адказы
Шчасце
Радасць
Мама
Тата
Брат
Сястра
Коцік
Думкі
Мары
Пачуцці
Што гэта
......

## Польска-беларуская крыжаванка № 27-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 23:**

Фота, няня, летнік, журы, рот, жаба квачка, рана, Ян, Кастусь. Жарт, труба, ранг, лыка, страва, ноч, нітка, ям, Ясь, ячмень.

Узнагароды, сашэ для даўгапісаў і каляровых алоўкаў, выйгралі **Кацпэр Бараноўскі, Каміль Суровец, Флёрыян Яворскі** з Бабікаў, **Тымэк Петручук** з Нарвы, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Jar / Trakt | | | | Kotek / Trzy | Latko |
| | Siedem | Wszystko | Lord | | | |
| Poziomki | | | | | Ty | Oh! |
| | | Las | Ali | Prąd | | |
| Miód | | | Trochę | | | |

# Падвядзенне вынікаў працы вучняў



**Канец навучальнага года гэта наогул прыемны час. Школьнікі думкамі і сэрцам ужо на канікулах. Прыемнае таксама ўзгадванне поспехаў, дасягнутых вучнямі за цэлы навучальны год. Гаворка пра тое ішла 23 чэрвеня ў Комплексе школ з дадатковай беларускай моваю навучання імя Яраслава Кастыцэвіча, дзе прайшло падвядзенне вынікаў працы вучняў.**

Мерапрыемства пачалося з гімна Польшчы і гімна школы — «Люблю наш край» на словы Канстанцы Буйло. У час урачыстасці выступіў калектыў «Капрыс», а вучні бельскай «тройкі» паказалі спектакль. Аднак асноўнай часткай праграмы было ўручэнне вучням узнагарод — статуэтак і кніжак — за дасягненні ў спорце, мастацтве ды за вынікі ў навуцы.

Сярод узнагароджаных была Ганна Гадзінская з VI «а» класа пачатковай школы. У мінулым навучальным годзе яна дасягнула адных з самых лепшых ацэнак, а таксама стала лаўрэаткай прадметных конкурсаў па беларускай і польскай мовах:

— Зразумела, я вельмі рада гэтаму, што атрымала ўзнагароду. Цешыць таксама тое, што хацяя ў мінулым ужо навучальным годзе было шмат навукі,



Аляксандра Пэткаў

я змагла ўсё, што важнае, вывучыць. Я планую працягваць працу ў такім напрамку, бо наогул люблю вучыцца. У наступным годзе хачу па-ранейшаму прымаць удзел у конкурсах па беларускай і польскай мовах.

Паспяховым мінулы навучальны год аказаўся для Аляксандры Пэткаў з I «ц» класа. Гімназістка атрымала ўзнагароду за ўдзел у прадметных конкурсах і за адну з самых высокіх сярэдніх ацэнак:

— Прыемна ведаць, што я ў гэтым годзе дабілася поспехаў у школе. Мае імкненні здзейсніліся і магу смела сказаць, што гэта выразная матывацыя для далейшай працы.

Падводзячы вынікі працы навучальнага года, педагагічная рада звярнула таксама ўвагу на падтрымліванне вучнямі мастацкага духу ў школе. Такім чынам узнагарода за дзейнасць у танцавальным калектыве «Світанак» завандравала да Клаўдзіі Кавалькі з II «ц» класа гімназіі:



Ганна Гадзінская



Клаўдзія Кавалька



Лукаш Зінкевіч

— Гэта не першы раз, калі я атрымліваю з рук настаўнікаў узнагароду. Цешыць факт, што і сёлета заўважылі маю дзейнасць у нашай танцавальнай групе.

Асаблівую ўзнагароду атрымаў Лукаш Зінкевіч з III «ц» класа гімназіі. Сёлетні выпускнік Комплексу школ імя Яраслава Кастыцэвіча стаў дацэнены за распаўсюджванне добрага імя школы. Гэта тычылася ўдзелу Лукаша ў многіх спартыўных спаборніцтвах, прадметных ды тэматычных конкурсах, а таксама ягонай працы ў вучнёўскім самаўрадзе:

— Прысуджэнне мне ўзнагароды паказвае, што мая цяжкая праца стала ацэнена належным чынам. Зараз я канчаю перыяд дзевяці гадоў вучобы ў нашай школе і магу шчыра сказаць, што адчуваю вялікую сувязь са школай. Цягам праведзенага тут часу я перажыў шмат прыемных момантаў, таму і маю многа добрых успамінаў звязаных з бельскай «тройкай».

Акрамя вучняў пачатковай школы і гімназістаў Комплексу школ № 3, віншавальныя лісты, звязаныя са школьнымі поспехамі дзяцей, атрымалі бацькі.

— Падвядзенне вынікаў навучальнага года з'яўляецца добрай нагодай для таго, каб разам з бацькамі прыгледзецца поспехам нашых вучняў, — кажа дырэктарка бельскай тройкі, Яўгенія Васілюк. — Дасягненняў у вучняў нашай школы за мінаючы перыяд вучобы было сапраўды шмат, аб чым сведчыць ужо сама працягласць урачыстасці. Лічу, што як для вучняў, гэтак і для настаўнікаў быў гэта паспяховы год.

— Я лічу вялікім гонарам, што мае дачка і сын узнагароджаны, — кажа маці вучняў з пачатковай школы і гімназіі. — Зараз ведаю, што выбар вучобы якраз у бельскай «тройцы» быў добрым рашэннем. Я лічу сябе беларускай, такая ж нацыянальная свядомасць таксама ўвагу ў маіх дзетак, тады вучобу праўдападобна будуць яны працягваць у бельліцэі ў Бельску-Падляшскім.

— Прыемна бачыць, што маё дзіця апынулася ў групе асоб, у якіх самыя добрыя ацэнкі з паасобных прадметаў, — лічыць бацька аднаго з шасцікласнікаў. — Ёсць намер, каб ён сваю вучобу прадаўжаў у бельскай белгімназіі. Спадзяюся, што таксама там вучоба акажацца настолькі паспяховай, як у пачатковай школе.

Афіцыйнае завяршэнне навучальнага года ў Комплексе школ імя Яраслава Кастыцэвіча прайшло дзень пазней — 24 чэрвеня. Многія з вучняў, развітаўшыся са школай, пачалі канікулы, будучы багацейшымі на поспехі, якіх дасягнулі ў перыяд ужо мінулай 10-месячнай навукі.

Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА

# Від з-пад прэнгера на кусты

Зрабіў я гэта па сутнасці машынальна. У допісе Іаанны Чабан „Пад паўстанчым крыжам" («Ніва» № 25) памяняў літары „J. S." на „C.". Але гэтая машынальнасць не вырасла з пустога месца. Першай пуцяводнай рацыяй для такога ўчынку з'яўляецца польская пагаворка „Za nic w świecie nie wierz kobiecie". Бо паверыць любой хітравумнай джакондзе — гэта першародны грэх, такі самы, на які напароўся славуты біблейскі Адам. Другая рацыя вырастала не з біблейскага, але з асабістага досведу. Менавіта восем гадоў таму ўзяў я інтэрв'ю ў спадарыні Цэцыліі Бах-Шчавінскай менавіта пра гісторыю Крынак. („Ніва" № 17 за 2008 г.) У ходзе размовы яна мімаходам сказала, што рыхтуе кнігу па гісторыі Крынак, якая тады вось-вось мела выйсці. І цяпер, чытаючы, што такая кніга існуе, у мяне аставалася цвёрдае перакананне, што гэта яна такую кнігу напісала. J. S. Bach напісаў „Брандэнбургскія канцэрты" ды мноства фугаў і матэтаў, але яго аўтарства крынскай гісторыі падалося мне даволі дзіўным. Таму дапусціўся я такога ўчынку.

Але ж фінальны свой тэкст прачытала сама Аўтарка і, гэтак жа як у славутай пушкінскай „Мяцелі", усклікнула: „Не тот!". Мае быць „J. S.", а не „C." І наша шаноўная Рэдакцыя ўзяла на сябе калектыўную адказнасць за маю індывідуальную вылазку ды ўпала перад Аўтаркай на калені, каючыся і просячы прабачэння. А я ж, узорам пасла Рэйтана ці генерала Панфілава, рашыў не здавацца. Заглянуў я ў бібліятэчны каталог наконт менавіта тае кнігі, з якой цытату абнародавала спадарыня Іаанна Чабан. А там інфармацыя, што рэдактарам згаданай кнігі „Krynki 500 lat" з'яўляецца Jan Sebastian Bach; рэдактарам! А гэта абазначае, што неабавязкова аўтарам, што магчымыя там іншыя аўтары паасобных раздзелаў. Аставалася мне праверыць, хто ў сапраўднасці з'яўляецца аўтарам цытаванай спадарыняй Іааннай цытаты з 48-й старонкі...

У кнізе тэксты двойкі аўтараў: Цэцыліі Бах-Шчавінскай ды Jana Sebastiana Bacha. І менавіта раздзел „Okres zaborów i odzyskanie w 1918 r. niepodległości przez Polskę na Ziemi Kryńskiej", займаючы старонкі 47-56, напісала спадарыня Цэцылія Бах-Шчавінская. Значыць аўтарства прыведзенай спадарыняй Іааннай цытаты не ў „J. S.", толькі менавіта ў „C." Дарэчы, змест гэтай цытаты даволі банальны і не абгрунтаваны нейкімі доказамі, толькі суб'ектыўнай верай Аўтаркі; тая цытата гэта нешта кшталту Filioque...

Ну, нягожа было б пакінуць так без увагі куміра, як мне здаецца, спадарыні Іаанны, а то зноў мела б яна нагоду, каб даць нейкі прыкол Рэдакцыі. Таму цяпер слоў пару прысвячу яму. Мабыць бацькі, хросныя і цэлебрант, прысвойваючы яму імёны геніяльнага кампазітара, спадзяваліся, што пад тым самым нябесным заступніцтвам маленькага тады чалавечка будзе чакаць велічная будучыня. І сапраўды, стаўшы дарослым, ён апраўдвае памазаныя яму спадзяванні на геніяльнасць. На 13-й старонцы кнігі „Krynki 500 lat" піша ён: „Nazwę tę można wywodzić etymologicznie od słowa „Krynica" — w dawnym języku polskim — Krzynica, w liczbie mnogiej Krzynice, a zdrobniale Krzynki, stąd pewnie Krynki...".

Значыць, паводле Jana Sebastiana Bacha, трэба меркаваць, што „w dawnym języku polskim" krew była krzew, krowa była krzowa, квартал Кракава Krowodrza быў Krzowodrza, а сам Kraków — Krzaków...

Я сардэчна дзякую спадарыні Іаанне Чабан, што паставіла мяне пад калектыўны прэнгер, бо з таго аспекту, з таго пункту гледжання, з-пад прэнгера, таксама можна нешта цікавае заўважыць. І Рэдакцыі дзякую таксама, што шчыра ўхапіла падкіпуты спадарыняй Іааннай яблык пазнання.

Аляксандр ВЯРБІЦКІ



# Навуковая канферэнцыя „Слядамі Нектарыя”

**У суботу, 25 чэрвеня ў Супрасльскай акадэміі адбылася навуковая канферэнцыя пад лозунгам „Слядамі Нектарыя”. Прысвечана яна была разгляду сувязей Супрасльскага манастыра з Сербіяй, а больш агульна — з паўднёвай Славяншчынай, у тым ліку і выніковым гэтых сувязей фрэскам Благавешчанскай царквы манастыра. У канферэнцыі прынялі ўдзел навукоўцы з Польшчы і Сербіі.**

Даклад на тэму культурных сувязей Супрасльскага манастыра з Сербіяй зачытаў прафесар Антон Міранові. У Супраслі ў XVI стагоддзі засяродзіліся самыя выдатныя дасягненні ў розных галінах культуры, якія асвятлялі і жыццё наступных стагоддзяў. Адным з элементаў насычаных культурнымі сувязямі з Сербіяй з’яўляецца Супрасльская бібліятэка, якая ў той час налічвала звыш двухсот рукапісных і друкаваных кніг. Шмат з іх паходзіла з сербскіх і балгарскіх асяродкаў, м.інш. лісты Клімента Охрыдскага ды творы Грыгорыя Цамблака, з якіх і пачаліся інтэнсіўныя культурныя кантакты паўднёвых славян з Рэччу Паспалітаю. У супрасльскіх служэбніках апынуліся малітвы ў адрас сербскіх святых, напр. святых Сімяона ці Арсенія Сербскіх. У Сербіі былі вядомы жыціі віленскіх мучанікаў Яна, Антонія і Яўстафія, а ў нашых асяродках — жыціі святых і біяграфіі свецкіх асоб, якія ўзніклі ў Сербіі. Таксама асоба Антонія Супрасльскага была ў Сербіі папулярнай. Тое ўзаемадзеянне атрымала моцны штуршок запар з падзеннем Канстанцінопая. Шмат бежанцаў з Балканскага паўвострава кіраваліся акурат у паўночна-заходнія рэгіёны Рэчы Паспалітай, пазбягаючы так Кіева, як і Малдавіі ці Валыні. Справа ў тым, што на поўдзень ад Прыпяці было неспакойна, там усё яшчэ прадаўжаліся татарскія наезды. Таму праваслаўныя цэнтры ВКЛ, такія як Тураў, Пінск, Вільня і Супрасль прыцягвалі паўднёваславянскіх інтэлектуалаў. Ды не толькі — сюды падаваліся і свецкія ды духоўныя іерархі, галоўным чынам па грошы, якія трэба было плаціць у турэцкую казну ўзамен за пасады. А каб атрымаць тыя грошы, трэба было сюды нешта прывезці. Такім чынам сюды траплялі мошчы і іконы. І, верагодна, такія кантакты ВКЛ з Балканамі і Блізкім Усходам не былі выпадковымі, але добра сарганізаванымі.

Д-р Адам Мусюк засяродзіўся на тэхнічных і тэхналагічных пытаннях выканання грунту пад фрэскі ў Благавешчанскай царкве. Гэта пытанне не толькі тэарэтычнае, але і практычнае ў сённяшні час. Менавіта зараз маецца патрэба выканання такога грунту, які не толькі задаволіў бы мастакоў, але і які вытрымаў бы выпрабаванне часам. Невядома, адкуль даўнія будаўнікі Благавешчанскай царквы бралі кампаненты для абтынкоўкі сцен. Вядома, што да вапны і пяску яны дадавалі саламяныя, ільняныя ды канапляныя валокны. Але адкуль бралі пясок і вапну? Дакументы пра гэта, вядома, не захаваліся, бо сумніўна, ці такія пытанні тады дакументаваліся. Да таго ж цяпер у Польшчы не прымяняюцца даўнія тэхналогіі пісання фрэскаў. Зараз такіх кампанентаў грунту, якія знаходзяцца ў захаваных фрагментах фрэскаў, не ўдаецца знайсці паблізу Беластока. Для новых унутраных тынкаў адпаведная вапна мае завозіцца з Аўстрыі, а адпаведны пясок з дна мазурскіх рэк. Такіх магчымасцей паўтысячагоддзя таму не было; яны браліся недзе бліжэй. Ды і дадатковыя вяжучыя кампаненты, такія як згаданыя саламяныя, льняныя ці канапляныя валокны ды жывіца шыпулькавых дрэў, сёння самі маюць іншыя чым даўней хімічныя кампаненты. Трэба нанава апрацоўваць такую тэхналогію, выходзячы з тэарэтычных напрацовак і досведу, сабранага ў іншых кліматычных умовах, аднак гэтыя матэрыялы павінны прайсці выпрабаванне часам, якое, дзеля прыстойнай праверкі, павінна доўжыцца нават некалькі дзесяткаў гадоў. Праблема маштабная!

Д-р Крыстына Ставэцкая апавяла пра гісторыю самых фрэскаў у Благавешчанскай царкве. Яны падлягалі паступоваму знішчэнню на працягу ўсяго перыяду існавання храма. Шматлікія мадыфікацыі інтэр’ера, звязаныя з патрэбамі зьмяняючайся абраднасці, былі першымі ахвярамі, якія фрэскі ўсклалі на алтар набіраючых дамінацыі тэалагічных плыняў. У храме паяўляліся новыя элементы, напрыклад алтары, дзеля змяшчэння якіх трэба было знайсці месца на сценах. Паявілася таксама абіўка, у выніку якой былі знішчаны ніжнія ярусы роспісу храма. Да таго ж чалавечая прага ўвекавечыць сваё імя не з’явілася толькі ў нядаўні час; яна, здаецца, датуецца з тых пор, калі людзі ўсвойвалі азы пісьменства. Адным словам, народ крэмзаў свае крамзолі і па сценах супрасльскага Благавешчанскага храма. У царскі час, у канцы XIX стагоддзя, былі ініцыяваны спробы абнаўлення фрэскаў, аднак, як пазней сцвердзіў прафесар Ядкоўскі, яны адбываліся варварскімі метадамі. У час апошняй вайны храм руйнаваўся сістэмна. Саветы зладзілі там нейкую майстэрню і варварскім чынам разбівалі выявы рэлігійнага зместу. Лагічным зыходам лёсу Благавешчанскай царквы і яе фрэскаў было ўзарванне храма ў 1944 годзе адступаючымі гітлераўцамі. Два гады рэшткі фрэскаў царкоўнага інтэр’ера праходзілі выпрабаванне атмасфернымі з’явамі і ў 1946 годзе яны былі зняты з развалін і цягам працяглых гадоў праходзілі няспешную рэканструкцыю. Зараз зрэканструяваныя фрагменты толькі некаторых выяў знаходзяцца ў Музеі ікон, што ў манастырскім комплексе.

Прафесар Святлана Пеіч з Бялграда расказвала пра царкоўны жывапіс у Сербіі ў XVI стагоддзі. Звярнула яна ўвагу на падабенства мастацкай манеры сербскага роспісу з роспісам супрасльскай Благавешчанскай царквы, напрыклад роспісу царквы ў Борачу. Аднак у той час у сербскіх цэрквах можна заўважыць наватарства, якое вынікала з тагачаснай сітуацыі, калі Сербія апынулася пад турэцкім панаваннем. У некаторых цэрквах Сербіі іканапісцы ўводзілі змены ў кананічную выяву дэісіса, прасоўваючы туды постаці сербскіх святых, напрыклад караля Стэфана Ураша Дэчанскага. На тагачасных фрэсках у Сербіі хутка паяўляюцца таксама выявы новых мучанікаў, якія гінулі з турэцкіх рук...

Прафесар Горан Яніцівіч з Бялграда расказаў пра мастацкую рэканструкцыю фрэскаў у адбудаванай супрасльскай Благавешчанскай царкве. Паколькі не захаваліся дакладныя апісанні ранейшага роспісу, тады рэканструкцыю трэба будзе праводзіць на аснове навукова абгрунтаваных сербскай іканаграфічнай традыцыяй домыслаў пра поствізантыйскае мастацтва. Яна павінна абапірацца на гістарычныя і тэалагічныя прадпасылкі. Аднак, як мне здаецца, яшчэ не надта вядома, як мае канкрэтна выглядаць план роспісу Благавешчанскай царквы, бо на такое пытанне спадарыні Ставэцкай спадар Яніцівіч адказаў даволі дыпламатычна і па-прафесарску, што гэтая сустрэча з’яўляецца добрым крокам у добрым напрамку, пачаткам далейшага аналізу і пошукаў у напрамку выпрацоўкі больш канкрэтных рашэнняў. Калі так, тады находзіць на думку пытанне, якое і паставіў шматгадовы парламентарый Яўген Чыквін: „Ці будзе магчымае ўнясенне ў новы роспіс выяў новых святых, напрыклад князя Канстанціна Астрожскага?”. На гэтае пытанне спадар Яніцівіч даў адмоўны адказ.

Значыць адказ на адно з пытанняў вядомы. Аднак рэканструкцыя супрасльскай Благавешчанскай царквы гэта задача з многімі невядомымі. Вядомым здаецца быць тое, што ў ролю колішняга Нектарыя, які персаніфікуе колішніх іканапісцаў храма, зараз мае ўступіць менавіта прафесар Яніцівіч. А вось ягоным памочнікам мае быць малады д-р Міядраг Мілуцінавіч, аўтар ікон, паказаных на суправаджаючай канферэнцыю выставе. На класічныя іконы Андрэя Рублёва яны не надта падобныя. На іконах маскоўскага іканапісца бачыцца шчака, а на іконах спадара Мілуцінавіча мне бачыцца рука (Хто ўдарыць цябе па правай шчацэ, павярні да яго і другую. Мф. 5:39). Магчыма, што гэта і абапіраецца на сербскую іканаграфічную традыцыю ўводу ў іконы надзённых палітычных эмоцый...

Пакуль што прафесар Яніцівіч напісаў на адной з калон царквы фрэскі трох святых. Яны такія ж, як і пісаныя Нектарыем. І выпадае спадзявацца, што гэтаксама будзе і далей. А якая будзе іх агульная кампазіцыя — пакажа час. Можа здарыцца такі цуд, што ўдасца ўваскрасіць Благавешчанскую царкву ва ўсіх яе дэталях. Бо цуды здараюцца, не толькі ў евангельскі час. Вось на тыднях пранёсся над Супраслю ўраган, які паваліў шмат буйных дрэў у найбліжэйшым наваколлі манастыра. Яны, падаючы, разбівалі ўсё, што апынулася на іх аганічным шляху. А вось памятны крыж, пастаўлены ў памяць легендарнай закладкі новага месца манастыра пасля бежанства манахаў з Гарадка, астаўся някранутым...



■ Новыя фрэскі

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# На фэсце ў КАШАЛЯХ


Фота Гмінны асяродак культуры

У сонечную нядзелю 12 чэрвеня г.г. каля 14.30 гадзіны ў вялікай вёсцы Кашалі, што ў Арлянскай гміне, упершыню адбыўся народны беларускі фэст «І тут жывуць людзі». Пачаўся мелодыяй «Вёсачка мая» з мегафона, а мерапрыемства вяла Паўліна Паўлючук-Коська.

Словы песні гавораць пра галоўную мэту ладжаных на Беласточчыне фэстаў. Гэта, галоўным чынам, сустрэчы з жыхарамі вёсак, у якіх пастаянна падае іх лік. У якіх не так часта як, напрыклад у Бельску ці Гайнаўцы, ладзяцца забаўляльныя падзеі. Вось таму гайнаўскі Беларускі музей, арганізатар мерапрыемства, хоча заглядаць у такія як Кашалі мясцовасці і паказваць часціцы беларускай спадчыны тым людзям, якія па розных прычынах, ці то з-за нездароўя, ці грашовых складанасцей, не могуць дабрацца ў горад, дзе адбываецца нешта развесяляльнае. За апошнія сем гадоў сустракаліся з жыхарамі многіх мясцовасцей паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. Заўсёды прывозілі ім беларускае слова і беларускую песню, якая заўсёды захапляла, выклікаючы ўсмешкі радасці.

Гэтак было і ў нядзелю ў час канцэрта, дзе кожны знайшоў нейкую насалоду сваёй душы. Апрача традыцыйных канцэртаў аматарскіх калектываў з Беласточчыны гледачоў чакалі таксама конкурсы з узнагародамі. Аб усім гэтым паклапаціўся арганізатар фэсту — Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Суарганізатарамі свята былі ўлады Арлянскай гміны ды Гмінны асяродак культуры ў Орлі, а грошы паходзілі з Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. На мерапрыемстве прысутнічалі войт Пётр Сэльвесюк, старшыня Гміннай рады Аляксандр Клін, сакратар гміны Ірэна Адзіевіч, дырэктар ГАК Анна Несцярук...

Войт Пётр Сэльвесюк падкрэсліў ідэю імпрэзы — што фэст прыязджае да людзей, а не людзі дабіраюцца на фэст. Падзякаваў таксама ўсім арганізатарам ды пажадаў прыемнага адвячорка.

Фэст пачаў дзіцячы гурт «1/3», які дзейнічае пры Комплексе школ у Орлі, а кіруе ім настаўніца Альжбета Цюлькевіч. Пасля выступалі калектывы, якія працуюць пры арлянскім Гмінным асяродку культуры: «Арляне», «Вэрвачкі», «Малінкі» і моладзевы гурт «Фэрмата».

Можна было таксама паслухаць калектывы, якія прыехалі з Гайнаўкі: «Мэтро», «Рэтробік», а на канец добра ўсім вядомы калектыў з Нарвы — «Арт-Пронар». Канцэрты закончыліся пасля шостай гадзіны вечара.

Былі таксама конкурсы для публікі. Спачатку было пытанне пра месцаправядзенняпапярэдняга фэсту, пасля — як даўно існуе Беларускі музей у Гайнаўцы. Узнагародамі былі кніжкі ды альбомы для здымкаў. Быў таксама музейны ларок з беларускімі кнігамі і рукадзеллем.

Гледачоў было шмат, моладзь крыху танцавала перад сцэнай. У вёсцы было больш пажылых людзей, якія сядзелі і слухалі беларускую музыку. Кожны мог сабе нешта ўпадабаць.

Гэта быў чацвёрты выпуск фэсту «І тут жывуць людзі», ладжаны супольна з арлянскім ГАКам (ранейшыя праходзілі ў Рудутах, Шчытах і Вульцы-Выганоўскай). Усё прайшло па думцы арганізатараў, а найважнейшае — паспрыяла надвор'е, што прыйшлі людзі, прыехалі, многія з Орлі.

* * *

Мяне зацікавіла пытанне: Як жывуць і што думаюць кашалёўцы?

— Не прыйшло мне ніколі на думку, што цягам паловы стагоддзя карэнным чынам памяняецца жыццё, — кажа пенсіянер Васіль Дажынка. — Зараз сенакос, але ніхто на лугах на Арлянцы не збірае сена — косяць і адразу сырое прасуюць. Каровы? Амаль ніхто іх не гадуе, а калісь былі два пагоны — з аднаго і другога канца вёскі. Кожны селянін трымаў карову, а некаторы нават па чатыры. Зараз нешматлікія пенсіянеры гадуюць кароў, якія дзень і ноч на пашы, там іх гаспадар і доіць. Любіцелі гарэлкі? Ёсць каля дзесяці асоб. Калісь за днёўку можна было купіць паўлітра і крыху закускі, а сёння за адну днёўку — пяць паўлітровак; гарэлка вельмі танная.

У размову ўключаецца іншы вясковец:

— Калісь на вёсках людзі былі дружныя. Людзі ахвотна дапамагалі сабе. А сёння нават на паўгадзіны не знойдзеш ахвотнага дапамагчы, нават за грошы. Кожны жыве толькі для сябе, у ізаляцыі.

І мне здаецца, што такі вось беларускі фэст іграе дадатковую ролю — ён становіцца нагодай, каб хаця частка людзей выйшла да сябе, сустрэлися...

* * *

— Ці фэст падабаецца? — спытаў я некаторых гледачоў. І ў прынцыпе ўсе адказвалі аднолькава: «А што, гэта толькі раз?».

— Значыць, чакаюць чарговых, — падсумавала дырэктар Гміннага асяродка культуры Анна Несцярук. — Дагэтуль тут не было, бо былі ў суседняй Орлі, а гэта ж амаль адно. Кашалі з'яўляюцца самастойнай вёскай і варта там ладзіць фэсты (вяскоўцы самі выканалі невялікую драўляную сцэну — М. М.) Калі будзе супрацоўніцтва і людзі заявяць, што хочуць, дык мы напэўна зладзім.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**






**https://baikalkrivich.wordpress.com**

У далёкай Сібіры жыве даволі вялікая дыяспара беларусаў. Яны масава з'явіліся там напачатку мінулага стагоддзя, дзякуючы спробам рэформ эканомікі, што хоць і непаслядоўна, але рабіў урад царскай Расіі. Вольныя землі і неабмежаваныя магчымасці прывялі на прыбайкальскія прасторы такое мноства колішніх насельнікаў Беларусі, што пазасноўвалі яны там свае паселішчы.

Цягам мінулага стагоддзя шмат хто з іх страціў сваю культуру, мову, звычаі. Праўда, дзякуючы паасобным рупліўцам, дагэтуль не толькі не згасае на берагах найбуйнейшага ў свеце прэснага возера Байкал беларушчына, але і мае перспектывы развіцця. Доказам гэтаму з'яўляецца моладзевы клуб „Крывічы", створаны Іркуцкім таварыствам беларускай культуры. Дарэчы, дзейнасць апошняга непарыўна звязана з імем Алега Рудакова, які быў яго ініцыятарам і доўгі час кіраўніком.

Каб бліжэй пазнаёміцца з дзейнасцю моладзевага клуба, трэба зайсці на сайт **https://baikalkrivich.wordpress.com**. Праўда, нягледзячы на тое, што даны сайт належыць маладым людзям, якія шчыра ўсведамляюць сябе беларусамі, тэксту па-беларуску там нямнога. І таму без рускай мовы ніяк не абысціся, калі ёсць жаданне прачытаць напісанае.

Акрамя адсутнасці беларускай мовы на сайце, за выключэннем паасобных слоў і сказаў, ніякіх прэтэнзій да віртуальнага прадстаўніцтва маладых іркуцкіх беларусаў няма. Так, першы позірк, кінуты на вэб-старонку, выклікае даволі прыемныя ўражанні. Ён зроблены ў бела-чырвоным афармленні і змяшчае мноства фотаздымкаў, якія адлюстроўваюць дзейнасць арганізацыі.

Усе выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення. „Главная цель МК „Кривичи" — возрождение и развитие духовных и культурных ценностей белорусского народа, обеспечение преемственности молодым поколением национальных обычаев, ремёсел, жизненного уклада и нравственных основ; помощь молодёжи, проживающей на территории города Иркутска в повышении гражданской активности и краеведческой работе", — распавядаецца ў рубрыцы „О клубе". Там таксама можна даведацца, што сярод асноўных напрамкаў клуба ёсць праца студыі аўтэнтычных спеваў для дзяцей і моладзі, студыі навучання побытавым і сярэднявечным народным танцам, рамесны майстэрні „Беларуская хатка", арганізацыя этнаграфічных экспедыцый у месцы кампактнага пражывання беларускіх перасяленцаў у Іркуцкай вобласці і іншыя. Узгадваецца там і вывучэнне беларускай мовы.

У рубрыцы „Наши планы" можна ўбачыць цэлую праграму мерапрыемстваў, якую намецілі клуб на сёлета. Сярод іх, у прыватнасці, міжнародны фестываль „Беларускі кірмаш", святы „Грамніцы", „Камаедзіцы", „Дажынкі", „Пакроў", „Дзяды" і іншыя.

Ёсць на сайце рубрыка „История белорусского народа", але пакуль там няма аніякай інфармацыі, бо яна ў распрацоўцы. Затое мноства цікавых звестак можна атрымаць з рубрыкі „Беларусы Прибайкалья: этнокультурное развитие вдали от исторической родины", дзе падрабязна апісваецца гісторыя з'яўлення беларусаў на сібірскай зямлі, асаблівасці існавання сярод карэннага народа — буратаў, намаганні па захаванні беларушчыны ў гарадах і вёсках халоднага краю.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

### Філамат, адзін з першых беларускіх паэтаў

# 220 гадоў з дня нараджэння Яна Чачота


Фота Віктара Парфёненкі

Помнік Яну Чачоту ў Карэлічах

Вядомы паэт, фальклярыст, філамат Ян Чачот нарадзіўся 24 чэрвеня (7 ліпеня па юліянскім стылі) 1796 г. у вёсцы Малюшычы Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкі раён). Паходзіў з сям'і арандатара Тадэвуша Чачота і Клары Гасіцкай. Яго дзяцінства прайшло ў маёнтку графа Тызенгаўза, дзе бацька быў эканомам. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудскай дамініканскай школе, у старэйшых класах якой пасябраваў з Адамам Міцкевічам. У 1815 г. паступіў на аддзяленне маральных і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта. Аднак, не маючы сродкаў на плату за навучанне, праз год пакінуў вучобу і ўладкаваўся ў Віленскае бюро па ўпарадкаванні архіваў князёў Радзівілаў. Душой і сувязямі Чачот заставаўся з універсітэцкімі сябрамі і, калі ў 1817 г. у асяродку віленскіх студэнтаў было ўтворана тайнае таварыства філаматаў, становіцца яго сябрам.

Ледзь не з дзяцінства Чачот спрабаваў сябе ў паэзіі. У філамацкі перыяд захапіўся стварэннем вершаў на роднай мове. Яго творы карысталіся вялікім поспехам на пасяджэннях таварыства. На паэтычным турніры, які адбыўся 21 снежня 1818 г., Чачот быў прызнаны трэцім паэтам пасля Адама Міцкевіча і Тамаша Зана.

У 1819 г. Чачот напісаў некалькі беларускамоўных імянных вітанняў і драматычных сцэнак, заснаваных на беларускім фальклоры, у тым ліку „Ды пакіньце ж горла драць", „Едзеш, міленькі Адам". У яго творчасці адчувальны ўплыў асветніцкіх ідэй сентыменталізму. У аснову балад Чачота ляглі паданні, якія паэт чуў у дзяцінстве на Навагрудчыне.

У 1821 г. філаматы трансфармаваліся ў патрыятычнае Таварыства філарэтаў. Яно было больш заканспіраваным, але і гэта не выратавала яго сяброў ад арыштаў і рэпрэсій. У 1823 г. Ян Чачот зняволены ў віленскую турму, потым высланы на Урал, дзе адбываў турэмнае пакаранне ў крэпасці Кізіл. У 1825 г. пераведзены ва Уфу, у 1831 г. — у Цвер. Толькі праз дзесяць гадоў паэту дазволілі вярнуцца ў Беларусь. На радзіме ён працаваў сакратаром кіраўніцтва Бярэзінскім каналам, потым бібліятэкарам у графа Храптовіча ў Шчорсах. З высылкі Чачот вярнуўся цяжка хворым, але знайшоў у сабе сілы зноў займацца творчай справай. Вывучаў фальклор, збіраў і перакладаў беларускія народныя песні. У вёсцы Бортнікі на Навагрудчыне запісаў і склаў цэлы зборнік беларускіх народных песень, які, на жаль, не захаваўся. Цягам 1837-1846 гг. сабраў і выдаў у Вільні 6 фальклорных зборнікаў „Сялянскія песні", куды ўвайшло каля тысячы песень у арыгінале і ў перакладзе на польскую мову. Вершы паэта актыўна ставіліся на музыку яго сучаснікам Станіславам Манюшкам: усяго на арыгінальныя тэксты і пераклады вусна-паэтычных твораў Чачота кампазітар напісаў 22 песні, болей, чым на словы кожнага іншага аўтара.

У надзеі паправіць сваё надломленае здароўе ўвесну 1847 г. Чачот выехаў у Друскенікі „на воды", дзе ў жніўні з ім здарыўся паралюш. Лячэнне не дало чаканага выніку і 23 жніўня 1847 г. Ян Чачот памёр у суседняй з Друскенікамі вёсцы Ротніца, дзе і быў пахаваны паблізу касцёла. Праз дзесяць гадоў пасля пахавання намаганнямі гарадзенца Заторскага над магілай Чачота быў пастаўлены помнік, на якім адбілі эпітафію з тэкстам Антона Адынца. Зараз магіла паэта ў дагледжаным стане. Помнікі яму пастаўлены ў Карэлічах і Новай Мышы (Баранавіцкі раён).

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Украінская „Народная крыніца” ў Нараўцы



**24 чэрвеня гэтага года па Нараўцы плылі, луналі ўкраінскія песні. Пад вечар у тамашнім амфітэатры над ракою выступіў з канцэртам знакаміты ансамбль з 25 чалавек „Народная крыніца” з украінскага 76-тысячнага горада Ніжына Чарнігаўскай вобласці. Шмат гадоў ансамбль працуе пад кіраўніцтвам Вольгі Сішыцы. Мае ён звонкія цудоўныя галасы.**

Восем гадоў таму спадарыня Вольга запрасіла ў Ніжын вакальна-музычныя калектывы з Нараўчанскай гміны: „Нараўчанкі” з Нараўкі і „Цаглінкі” са Старога Ляўкова. І яны там былі, і выступілі на галоўнай сцэне на Міжнародным фестывалі сучаснай музыкі „Сесія- 2008” ды ў парку ля Гарадскога дома культуры ў Ніжыне. Беларускі канцэрт вельмі спадабаўся ніжынцам. Калі саліст Марк Скамароўскі (арганізатар паездкі на Украіну) праспяваў прыгожую песню „Жураўлі” Язэпа Карпюка з Сямятыч, ён так усхваляваў-расчуліў бабулек і дзядуль, што ў іх вачах заблішчэлі слязінкі.

Варта дадаць, што з нараўчанскімі калектывамі ездзіў і ўсюды з імі хадзіў па горадзе спецкор „Нівы”. А былі яны ў Гарадской управе ў мэра Ніжына, у мясцовым універсітэце, у якім вучыўся вядомы рускі пісьменнік Мікалай Гогаль. Ёсць тут мемарыяльная дошка пра гэты факт. У горадзе над ракой Асцёр ёсць дванаццаць цэркваў. Пабывалі мы ў трох. Вельмі прыгожы іканастас мы ўбачылі ў храме Усіх Святых. Ехалі ў Ніжын цераз Кіеў і па дарозе наведалі тамашнюю Свята-Успенскую Кіева-Пячэрскую лаўру. Мы былі на Украіне пяць дзён. Ансамбль „Народная крыніца” таксама затрымаўся на пару дзён у Польшчы: 25 чэрвеня г.г. даў канцэрты ў Бельску-Падляшскім і ў Боцьках.

Падчас канцэрта ў Нараўцы „Народная крыніца” спявала перш-наперш прыгожыя падабраныя фальклорныя песні — з народных крыніц, у тым ліку і абрадавыя, звязаныя з порамі года: вясной (вяснянкі) і летам (купальскія). Была і класічная музыка. Спявалі песні „Гэй, саколы”, „Гай”, „Казачка”, „Мы ўкраінцы”, „Ехалі казакі”, „А ў лузе пры дарозе”, „Звіняць, звіняць звончыкі”, „Каліна-маліна” ды песні з украінскага вяселля. Выступалі салісткі, салісты, трыо і цэлы хор. Якія ў іх цудоўныя галасы! На заканчэнне канцэрта песню „Гэй, саколы” праспявалі ўсе разам — ніжынскі ансамбль і слухачы.

Паслухаць канцэрт прыйшлі і прыехалі жыхары Нараўкі, Альхоўкі, Лешукоў, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Семяноўкі і іншых вёсак.

Мерапрыемства арганізавалі Парафія св. Яна Хрысціцеля ў Нараўцы, Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

**Ганна САДОЎСКАЯ**
**Валілы-Двор**

## Хрысіцны ў Івана і Галіны

Нарадзіла Галя сына,
трэба бегаць за кумамі
і рабіць хрысціны.
Хата ў хату
бяжыць Іван па вёсцы
і кумоў да сына просіць.
Палову вёскі ўжо прайшоў,
але кумоў не знайшоў.
Вярнуўся Іван дахаты,
бы той балван калаваты,
бо ўсе запрашалі,
самагонкай частавалі.
Так ён быў напіўся,
што не вячэраў
і пад стол паваліўся.
Раніцай устаўшы
кажа Галіне:
— Пабягу далей шукаць,
хто ахрысціць нам дзяціну.
Час хутка бяжыць,
час дзіцё нам ахрысціць!
Знайшоў Іван кумоў:
за куму — Валянціну,
за кума — сваяка Здзіслава.
Нарэшце ахрысцяць
свайго сына Вацлава!

## Дзед і баба

Села баба на парозе,
скробаць бульбу на абед.
Распасцерла свае ногі,
а напроці — ідзе дзед.
Паглядзеў на сваю бабу,
паштыбнеў як агурэц:
ці то грушка, ці ігрушка?..
Сядай, баба, на канец!
Баба ўстала із парога,
і да дзеда ў гэты слова:
— Ты, стары, ці ты здурэў?
Твой канец ужо пасівеў!
Трэба было сядзець дома,
Дваццаць лет таму назад!
Ты ўсё бегаў па-за гумнам.
А дзісь ты — стары праснак!

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. кракаўская рака = 28 _ 29 _ 7 _ 8 _ 11 _;
2. прозвішча аўтара „Трох мушкецёраў” = 3 _ 21 _ 2 _ 18 _ 16 _;
3. насельнік = 26 _ 27 _ 10 _ 13 _ 19 _;
4. нутраны тлушч = 1 _ 20 _ 12 _;
5. трэці гук музычнай гамы = 25 _ 17 _;
6. захавальная ўстанова з калекцыямі экспанатаў = 23 _ 22 _ 4 _ 5 _ 6 _;
7. сталіца Фіджы = 14 _ 9 _ 15 _ 24 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Кірыла, дзверы, паяц, куль, абавязак, цела, мудрэц, кадрыля.

Рашэнне: **Дзяры лыка пакуль дзярэцца.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 03.07 — 09.07

**(22.03. — 20.04.)** Дасканалы месяц, толькі нічога не папсуй! На ўсякі выпадак не рызыкуй. Не слухай нават размоў пра хваробы. Калі чакаеш нагоды, каб стартаваць з амбіцыйнай задумай, хутка дзейнічай. 5-9.07. твае рашэнні наконт будучыні тваёй пары будуць разумныя. 3-8.07. не дазволь, каб меркаванні іншых папсавалі табе настрой.

**(21.04. — 21.05.)** Кар'ера, гульні, каханне — пры спрыянні неба здабудзеш усё! Найлепшы час на аўтапрамоцыю — да 11.07. — лансуйся, хваліся тым, што маеш, і сваімі дасягненнямі ў шырэйшай кампаніі. 4-9.07. сустрэнешся з людзьмі, якія запросяць цябе ў свой свет і заразяць сваімі пасіямі. Але чыесьці паводзіны ў гэты час могуць цябе раззлаваць.

**(22.05. — 22.06.)** Добра ў інтарэсах (да паловы ліпеня). 2-3.07. узмоцніцца твая інтуіцыя. Убачыш тое, што дагэтуль уцякала з поля зроку. 4-9.07. атрымаеш цікавую літаратуру, білет у кіно ці на файную экскурсію. Зашпіляй на працы ўсё на апошні гузік. 6-8.07. не плануй важных сустрэч, ненайлепш табе пойдзе і на кваліфікацыйных размовах.

**(23.06. — 23.07.)** Павышэнне, вялікія грошы, прыгожае пачуццё... Усё як працягнуць руку. Ну дык працягні яе! Неба над табою прагоніць сумныя хмары тваіх думак. У пачуццях не азірайся за сабою. 4.07. спадзявайся памысная вырашэння турбуючай здаўна цябе справы. 4-9.07. будзеш мець сілы пазмагацца за свае грошы. Могуць паявіцца новыя прапановы на працы. Купляй новае пасля 8.07.

**(24.07. — 23.08.)** Амбіцыйныя планы і заданні можаш адкласці набок. Запрагнеш адпачынку, а нават хвіліны самоты. У першай палове ліпеня не пашалееш, будзеш прытомлены, але затое асалодзіцца табе ў фінансах — можа прытрапіцца табе немалы прыліў грошай! Услухоўвайся ў сігналы свайго арганізма.

**(24.08. — 23.09.)** Узброены ў аптымізм, сілу і веру ў сябе рушай на заваёву свету. Або можа... чыёгась сэрца. Добры настрой і ахвота да падарожжаў. Удачы ў кожнай галіне. Але 3-7.07. з-пад кантролю могуць выбрацца сямейныя справы. Можаш быць заваленны работай, але ўміг справішся з усім і з яшчэ большым. 8-12.07. твае рашэнні будуць хуткія і трапныя. Старайся пазбіраць усе дакументы ды паафармляць свае справы да 12 ліпеня.

**(24.09. — 23.10.)** Што б не здарылася, памятай, што кожная бура калісьці сціхне, а час дзейнічае ў тваю карысць. 4-9.07. можаш адчуваць стому і фрустрацыю з-за штодзённай руціны. Праблемы, калісь замеценыя пад дыван, ажывуць 3-7.07. Ваганні настрою. Затое на працы можаш зазззяць (найбольш ужо пасля 12.07.).

**(24.10. — 22.11.)** Не ідзі цяпер у адпачынак! Варта аддаць з сябе цяпер найбольш і зайграць за высокую стаўку. 3-4.07. зарызыкуй і паддайся метамарфозе. 5-9.07. прыліў творчай энергіі, досціпу і добрага настрою. Пануй над эмоцыямі, асабліва калі хочаш штосьці нагаварыць шэфу. З 8.07. будзеш мець нагоды развінуць свае пасіі.

**(23.11. — 22.12.)** 2-4.07. заварожыш атачэнне — будзеш зоркай! 3-8.07. выкарыстай нагоду, каб пазнаёміцца з кімсьці прыцягальным. Але не дамаўляйся на супераk сабе. Можа адазвацца занядбанае здароўе. Неспадзяваныя інфармацыі ад далейшых сваякоў; трэба будзе камусьці памагчы, падтрымаць маральна ці матэрыяльна. Абяцаюцца табе поспехі на працы, але не без змагання, бо нішто табе лёгка не прыйдзе. Не заядай тугі.

**(23.12. — 20.01.)** 2-4.07. будзеш упарты і раздражніш іншых. 4-9.07. весткі прынясуць табе радасны настрой. 5-9.07. пераканаешся аб сіле пачуццяў партнёра. Сонца звяртае тваю ўвагу на справы дому і сям'і. Вялікія шанцы ў першай палове месяца ў плане пачуццяў — не змарнуй іх! Вельмі добры час для адпачынку. Рэгулярна еж і практыкуйся.

**(21.01. — 19.02.)** 4-9.07. непатрэбна не паспрачайся з кімсьці, хто табе не спрыяе. Трэба будзе прытармазіць і яшчэ раз прыглядзецца планам. Можаш знайсці дарогу да чыёгасьці сэрца. Прыцягнеш цікавых людзей. А так схочацца адпачыць! Тым больш што можаш сумнявацца ў тым, ці робіш тое, што трэба. Едучы за мяжу, дадаткова застрахуйся.

**(20.02. — 21.03.)** 2-4.07. зразумееш што сапраўды важнае. 3-8.07. выпрастаюцца твае адносіны са сваякамі. Можаш неспадзявана з'ездзіць на файную экскурсію (звольніцца месца). Маеш вялікую падтрымку зорак і энергію. Будзеш адважны, баявіты, не адступішся перад нічым, каб дасягнуць мэту. Калі хочаш купіць машыну або электроніку, паспей зрабіць гэта да 12.07.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Людзі з-над Бобры

**ШУШАЛЕВА — больш за дзясятак хат, пераважна драўляных. Невялікую вёсачку з аднаго боку замыкае каплічка Божай Маці, з другога — сталёвы крыж. Невялікая, выразана з ліпы Марыя сядзіць у маленькай нішы і з клопатам глядзіць на вёску. Яе твар змыў ужо дождж і знішчыў вецер. Каплічку зрабіў мясцовы скульптар з Каменнай — спадар Рышард, які нібыта вядзе закулісныя перамовы са святымі і анёламі. Ён сам, хаця гаворыць аб гэтым сцішаным голасам, мае доказы, што яго разьба цудадзейная. З Дубровы ў Шушалева вядзе простая дарога. Пры ёй аж да Крапіўна цягнецца шпалера прыгорбленых, разгалінаваных вербаў. На поўнач плыве Бобра, на поўдзень Шушалева ад рэшты свету адцінаюць лугі.**



■ Генрык Дубіла

Жыхары вёскі памятаюць густа пастаўленыя хатачкі, памятаюць таксама невялікія пакойчыкі, у якіх у час марозных зім жанчыны выконвалі адыходзячыя ў забыццё, архаічныя працы. Кавалеры, як гэта бывае, перашкаджалі ў гэтых работах, спявалі доўгія, даўнейшыя песні. Часам кідалі работу і танцавалі ў хатках без падлогі, тупалі па замеценым таку. Патанцоўкі для маладых з Шушалева былі першымі сутыкненнямі, дотыкамі і шаптанымі ў танцы словамі. У такі спосаб Станіслаў Уголік пазнаёміўся са сваёй жонкай Ганяй.

### Вёска па-за гісторыяй

Здаецца, што гісторыя баялася парушыць межы Шушалева. Другая сусветная вайна праходзіла побач. І хаця людзі чулі пра немцаў, якія стаялі дзесьці над Бобрай, пра хаваючыхся па лясах партызан, хаця па палях неслася рэха выбухаў, да Шушалева вайна не дайшла. Яна не перашкодзіла існаваць і сплятацца паўсядзённым гісторыям. І хаця жыхары Шушалева чулі, што на Бобры ўзарвалі мост, ніколі не адчулі ваеннай штодзённасці акупаваных зямель. Яны рабілі сваё, меней ці болей умела фарміравалі сваю гісторыю, не чакалі вынікаў. Вёска выпала з гісторыі свету. Толькі яўрэі, якія складалі большую частку насельніцтва блізкай Дубровы, нечакана зніклі і не было ўжо такога запатрабавання на рыбу з Бобры.

### Рыба і легенды

Маляўка — так называлі Шушалева акалічныя людзі. Гэта малая рыба, якая таксама трапляла ў сеці. Вёска славілася рыбакамі, якія хаця ўжо не жывуць, ва ўспамінах жыхароў былі прыкладам прадпрымальніцтва і вынаходлівасці. Бучы, лодкі, вуды — усё было выраблена грубымі ад вады і ветру рукамі людзей. Па сёння ў шушалеўскіх стадолах і свіронках можна знайсці панішчаныя ўжо рыбалоўныя прылады.

Па рыбу ў Шушалева прыязджалі не толькі яўрэі з суседняй Дубровы, але, як з гордасцю падкрэсліваюць людзі, нават лекары і адвакаты з Беластока. Былі такія рыбакі, якія толькі дзякуючы рацэ выжывалі.

— Бучы ўстаўлялася ўшчыльную, — тлумачыць Станіслаў Уголік. — Часам перагароджвалі імі ўсю шырыню ракі. Адцяжкі мацавалася за абруч або раму ўваходнай прылады. Ой, але калісь рыбы было многа, мяшкамі насілі! Такі быў Ромэк Борух, славуты рыбак. Хадзілі мы разам на раку, застаўлялі тыя бучы і толькі рыбу дахаты цягалі.

Успаміны Уголіка здаваліся быць сапраўднейшыя, чым від з акна, пры якім сядзелі. І калі ў маіх уяўленнях паўставаў вобраз нязломнага рыбака, маналог Уголіка перарваў смех ягонай жонкі: „Калі я сюды прыйшла, тваёй рыбы не пакаштавала, бо ты мне ніколі не прынёс!”. Гэтым сказам Уголікава патушыла каларытныя ўспаміны Станіслава, але як разумная жанчына, якая перад чужымі не хацела падарваць аўтарытэт мужа, дадала, што раз пад'ела ягонай рыбы, калі той абакраў чужыя бучы. Тады Станіслаў Уголік мог плаўна пачаць новы расказ аб тым, як мучыўся, калі ноччу нёс поўны мяшок рыбы дахаты. Аднак крыху пакаяўся і прызнаў, што баіца вады, канчаючы гісторыю словамі: „На лодку мяне не пасадзіш!”.

### Птушынае месца

У расказах жыхароў Шушалева свет, жыццё над Бобрай было амаль ідылічнае. Хмары птушак, якія прылятаюць сюды з вясной, пасяляюцца на прыбаброўскіх лугах.

— Калі выйшаў чалавек на луг, здавалася, што яны вушы паабрываюць. О, Матко... — успамінае Станіслаў Уголік, хапаючыся абедзвюма рукамі за галаву. — Найбольш было кнігавак. Бывала, выйдзеш касіць, а там поўна гнёздаў. Мы абкошвалі траву так, каб гэтае гняздзечка засталося.

Жыхары Шушалева смяюцца, што птушкі прылятаюць над Бобру як на вяселле — ядуць, танцуюць і змагаюцца за партнёра. Турухтаны (батальёны) — сімвал Баброўскага нацыянальнага парку, прылятаюць пад канец красавіка, спарваюцца і тады найбольш чуваць іх з лугоў.

— А жураўлі, о, Божа... — працягвае Уголік, гледзячы з акна ў глыб панадворка. — Бывае, выйдзеш за стадолу каля чацвёртай гадзіны раніцы, а там заўсёды прылятаюць такія два жураўлі, як пачнуць крычаць... ах.



■ Станіслаў Уголік і Генрык Дубіла

Менавіта вечарам або з раніцы найбольш чуваць птушынае жыццё з-над вады. Сярод чароту яшчэ нешта шамаціць, шчабеча. У цемры ўсе гукі набіраюць гучнасці. Да світання шум усё яшчэ інтэнсіфікуецца.

### Дом

Хата Уголікаў быццам бы мост паміж даўнім Шушалевам, а цяперашнім, сучасным. Сведчыць аб бесперапыннасці існавання яе жыхароў. Нават іхняя хата схіляе да задумы над часам, прамінаннем, гісторыяй. Інтэр'ер дома ўпрыгожаны прастатой. У пакойчыку пад галоўнай сцяной стаіць канапа, перад ёю стол акружаны драўлянымі крэсламі, ці табурэтамі са спінкай. Пры бакавых сценках стаяць драўлянае ложка, шафа і куфар. На сценах з драўляных



бярвён пабеленых вапнай увагу прыцягваюць каляровыя абразы святых. Нават у пакойчыку існуе штосьці на ўзор „святога кута”, толькі замест ручніка вісіць тканая сурвэтка ў клетку. Такі рэлігійны падляшскі „мішмаш”. Бо хто ведае, ці калі б бацька Уголіка, які быў праваслаўны і вучыўся на бацюшку, не „падстроіў” дзіця каталічцы, на дошчачцы ў куце, замест крыжа, не стаяла б сёння ікона Божай Маці.

### Ціхая плынь

Расказы Дубілы і Уголіка, якія штораз глядзелі ў акно, абстаўленае геранямі, быццам бы там шукалі свету, які адышоў у забыццё, вобразныя і кранаючыя. З тымі расказамі ў забыццё адыходзіла Шушалева, як вёска бачаная вачыма чужынца, перад якім трэскаюць дзверцамі і за якім брэшуць сабакі. З гэтых расповедаў можна адкрыць вёску, якая была загубленай у самой сярэдзіне свету. Дыстанцыя з жыхарамі хутка звужваецца толькі на даўжыню стала, на якім таксама хутка з'яўляецца бутэлька гарэлкі і вэндліна „Żeglarski przysmak”.

Шушалева гэта не толькі рака, якая з'яўляецца адным з апошніх сховішчаў дзікай прыроды ў Еўропе, але перш за ўсё незнаваныя людзьмі гісторыі.



Уршуля ШУБЗДА
Фота Павал ТАДЭЙКА

ISSN 0546-1960